

Народ памятае →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Беларускі марш →5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 35 (3355) Год LXV | Беласток, 30 жніўня 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# Белае і чорнае

Ніхто з нас не мог і блізка прадбачыць, што мы станем сведкамі такіх маштабных і гістарычных падзей, якія адбываюцца зараз у Беларусі і вакол яе. Нацыя, змучаная жахлівым і бязлітасным дваццатым стагоддзем, яго войнамі і сталінскім генацыдам, пераходным перыядам пасля развалу таталітарнага Савецкага Саюза, зноў фактычна вяртаннем да савецкага камуністычнага ярма, урэшце прачнулася, схамянулася, абудзілася і выйшла на авансцэну. Чорная хеўра, якая ўладарыць на нашай зямлі, гэтага не магла не заўважыць. Тры ці чатыры дні людзей пасля галасавання на так званых прэзідэнцкіх выбарах хапалі на вуліцах беларускіх гарадоў, дубасілі, здзекаваліся па дарозе ў месцы зняволення, збівалі, дратавалі, катавалі ў розных месцах да калецтва, страты прытомнасці і нават смерці. Фактычна былі створаны сапраўдныя канцэнтрацыйныя лагеры з дзеяннямі катаў у стылі энкавэдыстаў і эсэсаўцаў. Вынік гэтага фашыстоўскага пабоішча — як мінімум пацверджана гібель пяці чалавек, каля дзесяці зніклі без вестак і іх не ўдаецца адшукаць дагэтуль, дзясяткі застаюцца ў шпіталях з ранамі і калецтвамі, сотні і тысячы жорстка збітыя і маюць траўмы рознай цяжкасці. Свабода і вызваленне здабываюцца, на жаль, крою, ахвярамі і стратамі.

Але такія жорсткія, нечуваныя на беларускай зямлі зверствы карнікаў з часу Другой сусветнай вайны, не зламалі волі народа да перамен, не скарылі духу яго супраціву. На плошчы і вуліцы наступнымі днямі павыходзілі тысячы жанчын у белых і бел-чырвона-белых строях, многія з дзецьмі і карнікі былі змушаны адступіць, стрымаць сваю неспатольную прагу крыві. А ўслед пачалі страйкаваць працоўныя заводаў і прадпрыемстваў. І ўлада затрэслася ад страху, галоўнакамандуючы аддаў загад збіраць і звозіць на плошчы сваіх прыхільнікаў з чырвона-зялёнай сімволікай. Пайшла дзяржаўная кампанія ў падтрымку „ўсенароднаабранага", у інтэрнэце з'явілася прапаганда з недарэчнымі хэш-тэгамі, кшталту „Ябатька", якія выклікалі россып карыкатур і смеху. Пры ўсіх высілках дзяржаўных прыкарытных структур стварыць уражанне шырокай падтрымкі Лукашэнкі працоўнымі масамі так і не ўдалося, максімум, што ім удалося — гэта стварыць карцінку для афіцыйнага тэлебачання, якому ўжо мала хто верыць. Затое многія яшчэ раз убачылі сапраўднае аблічча гэтай улады. Калі ўслед за зацятымі, а таксама паднявольнымі праваднікамі „чырвоназялёнага" курсу, якіх прывозілі на плошчы на адмысловых аўтобусах за дзяржаўныя сродкі, пацягнуліся і нешматлікія, але агрэсіўныя прыхільнікі паглынання Беларусі Расеяй — гэтыя павылазілі і з дзяржаўнымі расейскімі, і з георгіеўскімі, і з дэнэраўскімі сцягамі. Аднак, усё гэта з'явілася на адзін дзень і назаўтра зноў схлынула, як набрыдзь, здзьмутая ветрам.

Чым яшчэ былі адзначаны апошнія тыдні? Перш за ўсё шматлікімі акцыямі салідарнасці па ўсім свеце. Яшчэ ніколі пра Беларусь на планеце не гаварылі так шмат. Яшчэ ніколі беларусы, якія жывуць і працуюць за мяжой, і якія, як раней здавалася, былі апалітычнымі і абсалютна абыякавымі да спраў на радзіме, не былі такімі салідарнымі ў падтрымцы Бацькаўшчыны. У дзясятках краін розных кантынентаў яны павыходзілі на плошчы гарадоў з бел-





чырвона-белай сімволікай і плакатамі падтрымкі, арганізавалі збор сродкаў пацярпелым ад рэпрэсій. Яшчэ ніколі мы не бачылі такой салідарнасці і падтрымкі ад суседніх народаў, ад урадаў і палітыкаў бліжэйшых сумежных дзяржаў, асабліва Польшчы і Літвы. Нават у Маскве прайшло нямала акцый салідарнасці з беларусамі ля амбасады Рэспублікі Беларусь, а футбольныя фанаты на стадыёнах там неаднаразова скандавалі „Жыве Беларусь!". І толькі пазіцыя крамлёўскіх уладароў застаецца непахіснай — яны падтрымліваюць і будуць падтрымліваць свайго адыёзнага васала да апошняга дня. Выразна паказала сябе і фальшывая палітыка кіраўніцтва Еўрасаюза, якое цэлы час падкрэслівае, што праблемы Беларусі — гэта кампетэнцыя Масквы, якой належыць іх вырашаць. І хоць Еўрасаюз афіцыйна не прызнаў вынікаў прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, рэальна ён патурае пуцінскаму курсу ў дачыненні нашай краіны. Адзін з еўрапейскіх камісараў, нават імя яго згадваць не хочацца, настолькі агідна, дагаварыўся нават да таго, што „Беларусь — гэта не Еўропа". Ні больш, ні менш. І ніякіх ілюзій у дачыненні да брусельскага курсу тут мець не варта.

Іхная рэал-палітык раней ужо давяла да парушэння тэрытарыяльнай цэласці Грузіі і Украіны, многіх праблем у Еўропе. Так што ў прынцыпе нічога новага.

У душах сапраўдных патрыётаў Беларусі за гэтыя тыдні адбылася выразная перамога нацыянальнай бел-чырвона-белай сімволікі над фальшывай і каланіяльнай чырвона-зялёнай. Людзі зрабілі свой выбар, людзі ўбачылі: бел-чырвона-белы сцяг — гэта свабода, гэта радасць, гэта праўда і святло. Чырвона-зялёны сцяг — гэта сімвал балоцістай твані, залежнасці ад Масквы, сімвал гвалту і цэмры. Асабліва найяскравей гэта стала відаць, калі чырвона-зялёнымі сцягамі ўлады „ўпрыгожылі" жалезныя аўтазакі, у якіх закідвалі і ў якіх катавалі грамадзян, што хочуць „звацца людзьмі". Бел-чырвона-белы сцяг — гэта сімвал вольнасці і міру, чырвона-зялёны — сімвал каланіяльнасці і смерці. Выбар зроблены жыццём і падзеямі, а тыя, хто спрабуюць выходзіць на вуліцы адначасна з двума дыяметральна супрацьлеглымі сцягамі — альбо дурні, альбо правакатары. Бо ніколі чорнае не можа быць белым, такая яго прырода і сутнасць. А таму фальшывае і хлусліваае ніяк не можа і не павінна спадарожнічаць сапраўднаму.

Амаль усе гэтыя дні я хадзіў на плошчы Гародні, назіраў за людзьмі і доўга не мог зразумець, чаму ж яны радуюцца. Бо нічога яшчэ пакуль па вялікім рахунку не змянілася з агульнай сітуацыяй улады: яна па-ранейшаму ў руках тых, каму не павінна належаць, яна па-ранейшаму пагражае людзям арыштамі і расправай, яна, гэтая чорная сіла пад чырвона-зялёнай сімволікай, не хоча сыходзіць у адстаўку, яна паранейшаму трымае ў закладніках палітычных вязняў, трымае пад прыцэлам усіх нас. І, падаецца, што ўнутраная і знешняя радасць многіх людзей — гэта не столькі неабачлівая заўчасная эйфарыя, а самарадасць з таго, што чалавек пераадолеў свой унутраны даўні, нават генетычны, страх, які доўга паралізоўваў яго волю, сумленне, розум. Гэтае ўнутранае разнявленне хіба і ёсць рэвалюцыя свядомасці, якая вядзе да яднання і салідарнасці, і ўрэшце да асэнсавання і разумення прычын, чаму наша нацыя апынулася ў такой залежнасці ад узурпатара і яго маскоўскіх патронаў.

Беларуская нацыя ўжо зараз паказала свету нейкі неверагодны варыянт еўрапейскага гандызму дваццаць першага стагоддзя. Супраць чорнай карнай і ашчэранай збройнай сілы супрацьпастаўлены кветкі, паветраныя шарыкі і бел-чырвона-белая сімволіка. Супраць нянавісці і зла — іронія, лагоднасць і ўсмешкі. І аніводнага гвалтоўнага дзеяння з боку дэманстрантаў, якіх у сталіцы Беларусі збіраліся ўжо сотні тысяч, а ў некаторых іншых гарадах — дзясяткі тысяч. Нібыта гэта зусім не палітычныя мітынгі і акцыі, а нейкі суцэльны фестываль ці святочны карнавал.

Але зараз у многіх яшчэ шмат знявераннасці і сумненняў, трывогі і цвярозай ацэнкі сітуацыі. Рэжым па-ранейшаму пагражае народу расправай, трымае палітвязняў у закладніках, пачынае новыя крымінальныя і адміністрацыйныя справы, хапае новых вулічных лідараў і актывістаў. Ці выйдзе з гэтай вялікай чорнай хмары толькі малы дождж, ці на галовы нязгодных з цяперашнім узурпатарскім рэжымам абрынецца новая хваля жорсткіх рэпрэсій з чарговымі ахвярамі — невядома. Апрычнікі і карнікі рэжыму нікуды не падзеліся. Вельмі шмат, як часта бывала і раней, залежыць ад пазіцыі маскоўскага Крамля. А ён ніяк не хоча адпускаць Беларусі са сваіх крывавых імперскіх абдымкаў. Пра гэта сведчаць усе афіцыйныя заявы Масквы, якая толькі фармальна пакуль застаецца нібыта „ні пры справах". Але, з іншага боку, шмат чаго ўжо ў руках і галовах самога беларускага народа, які становіцца новым суб'ектам палітычнага працэсу, рэальным чыннікам вызвалення і перамен.

Тэкст і фота **Уладзіміра ХІЛЬМАНОВІЧА**






Заява ГА «Саюз беларускіх пісьменікаў» і Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

У апошні час усё часцей з боку ўладных структур Беларусі на самым высокім узроўні мы чуем запалохванні ў тым, што сёлетні мірны пратэст за справядлівыя выбары адною са сваіх мэтаў мае гвалтоўнае насаджэнне бел-чырвона-белага сцяга і беларусізацыі як уціску рускамоўнага насельніцтва. Такім чынам улады хочуць адцягнуць увагу ад наяўных праблем і патрабаванняў грамадзян правесці новыя справядлівыя і празрыстыя выбары прэзідэнта краіны і прыцягнуць да адказнасці ўсіх вінаватых у гвалце над сваім народам.

Больш за тое, чым часцей гучаць такія заявы, тым больш нарастае ўпэўненасць, што ўлады спрабуюць правесці прапагандысцкі раскол у беларускім грамадстве, — так, як гэта было ва Украіне зусім нядаўна. Навязваючы і распаўсюджваючы ілжывую інфармацыю, улады імкнуцца пасеяць варажнечу сярод удзельнікаў мірнага пратэсту, а таксама, што найбольш важна, паказаць вонкавым назіральнікам, у першую чаргу — расійскім, што ў Беларусі на дадзены момант існуе неабходнасць у актыўным умяшальніцтве ва ўнутраныя справы, у тым ліку вайсковым.

Мы перакананыя, што нацыянальныя сімвалы Беларусі, бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», унесены самой уладай у спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў, служаць грамадству толькі дзеля яго яднання і кансалідацыі, што паказваюць і мірныя акцыі пратэсту, дзе нашыя старажытныя сімвалы трывала замацаваліся і актыўна выкарыстоўваюцца ўсімі пакаленнямі дэманстрантаў.

Гэтаксама і беларуская мова служыць толькі мэтам яднання і з’яўляецца бясспрэчнай каштоўнасцю беларускай нацыі.

Мы, Саюз беларускіх пісьменікаў і Згуртаванне «Бацькаўшчына», патрабуем спыніць усякія спробы ўнесці раскол у беларускае грамадства. Лічым, што такія маніпуляцыі з каштоўнасцямі беларускага народа шкодзяць міждзяржаўным стасункам і нясуць пагрозу суверэнітэту нашай краіны.

Мінск, 24.08.2020.

# Фронтмены

Ні адзін дыктатар добраахвотна не адмаўляецца ад улады. Аляксандр Лукашэнка таксама не аддасць яе. А Лукашэнку не аддасць пад суд разззлаваным беларусам Уладзімір Пуцін. Так як ён не дазволіў венесуэльцам пагнаць ненавіснага Нікаласа Мадура ці сірыйцам Башара Асада. З апошняй пары дыктатараў адзін варты другога. Абодва яны злачынцы. Абодва нясуць адказнасць за апакаліптычную бойню ўласных народаў і толькі застаюцца пры ўладзе як мага даўжэй. Гэта таму, што ўлада выклікае прывыканне, як наркотык. Яна ап’яняе, але ў той жа час разбурае чалавечы мозг. Гісторыя не ведае ніводнага дыктатара, які пры канцы ўладарання не захварэў на розум. Ну, можа, за выключэннем Юлія Цэзара. Пра першую пару дыктатараў пакуль нельга з упэўненасцю сказаць, што яны валодаюць ліцэнзіяй кваліфікаваных разнікоў. Але калі яны сапраўды адчуюць рызыку страціць уладу, чаму б не пайсці ім шляхам Мадура і Аль-Асада? Калі іх свет — свет улады, унутраны сэнс і парадак, устаноўлены імі самімі — меў бы разбурыцца, нашто патрэбен ім любы свет, людзі, якія жывуць у ім, якія кіруюцца сваімі, чужымі для іх, надзеямі, нейкай не іхняй верай, не іхняй патрэбай парадку і сэнсу. Без іх улады свет пусты для іх. Лепш падрыхтаваць яму Апакаліпсіс. Сапраўды, філосаф не зразумее такога стаўлення, але псіхіятр — абсалютна!

Еўрапейскія дыктатары, аднак, не з’яўляюцца перыферыйнымі тыранамі. Падобная палітычная метамарфоза здаецца немагчымай у нашай культуры, якая перажыла немагчымыя для ўяўлення злачынствы сусветнай вайны, і таму моцна насычана гуманістычнымі ідэямі. Нават Савецкі Саюз, пакуль ён існаваў, спасылаўся на годнасць чалавека, вяршэнства закона і сацыяльную справядлівасць. Іншая справа як гэта выглядала на практыцы! Такім чынам, пара Лукашэнка-Пуцін мае свой ментальны генатып, але гены, адказныя за гэта, у іх глыбока спяць. Нагадаю, што абодва, калі пачыналі сваё кіраванне, выкарыстоўвалі лозунгі, вынікаючыя з гуманістычнай граматыкі, якая лягла ў аснову мовы дэмакратыі. Аднак з часам іх вымаўленне стала грубым і яны ўсё больш смела размаўлялі на мове абанкручанага калгаса альбо цёмнай вуліцы, жаргонам палітычных жулікаў, якімі яны заўсёды былі. Паміж звычайным і палітычным жулікам ёсць такая згоднасць, што яны абодва праяўляюць сацыяпатычныя рысы і не маюць этычнай асновы. Абодва праяўляюць схільнасць да агрэсіі, да жорсткага гвалту і да жыцця за межамі грамадскіх правілаў. Нарэшце, абодва яны інтэлектуальна некампетэнтныя для стварэння рэчаіснасці, хутчэй, тая рэальнасць такая, якую яны знайшлі ў сваіх збалелых радзімах, стварыла іх уладу. У любым выпадку, адзін падобны на другога. Несумненна, за гэтымі пацёмкінскімі постацямі знаходзіцца шматузроўневы арганізм улады, аніміруючы саму дыктатуру з-за яе спіны. Дык ці будуць яны і Лукашэнка, і Пуцін проста фронтменамі нейкіх нявызначаных сіл, якія рэалізуюць свае д’ябальскія мэты за кошт уласных нацый? Аднак падсоўваю тут ілжывы след для прыхільнікаў тэорыі змовы. Таму што неабавязкова. У рэшце рэшт, яны маюць за сабой верную арду памагатых, прыслужак, звычайных ашуканцаў і, на жаль, масы карысных ідыётаў. Дыктатура, аднак, не становіцца за ноч. Гэта доўгатэрміновы працэс, які не адбываецца без пэўнай — больш-менш свядомай — згоды ўсяго грамадства. Я думаю, што гэта адбываецца не толькі з-за палітычнай пасіўнасці ці разявацтва. Магчыма, што рухавіком такога стаўлення з’яўляецца калектыўная схільнасць да... карупцыі. І мае яна шмат сінонімаў. Нас псуюць прыгожыя лозунгі, якія мы хочам пачуць, ілюзорная эканамічная стабілізацыя і нахабны ідэалагічны, светапоглядны і палітычны подкуп. Я згадаю толькі эканамічнае ці прэстыжнае хабарніцтва. За гады, а хутчэй дзесяцігоддзі разбэшчвання грамадзян дыктатура абрастае ў альянсы, здзелкі, дамовы, залежнасці і абяцанні. Яе ракавыя метастазы замацоўваюцца ў парламенце, судовай сістэме, СМІ і разнастайных вылучэнцах улады: у партыйных актывістах, чыноўніках, высокіх ваенных і паліцэйскіх чынах. Нарэшце, яны дасягаюць важных структур грамадскага арганізма, напрыклад, шараговых міліцыянтаў, чыноўнікаў і звычайных грамадзян, і перш за ўсё той іх часткі, якая звычайна засяроджваецца на эмоцыях і надзеях, выкліканых прапагандыстамі ўлады, сваімі фронтменамі.

Міраслаў ГРЫКА

# Паміж вар’яцтвам і правакацыяй



Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў сілавікоў за „ўзорнае выкананне службовых абавязкаў”. АМАПаўцы, прадстаўнікі ўнутраных войскаў, следчыя, супрацоўнікі следчых ізалятараў, кіроўцы аўтазакаў, карацей — тыя, хто такім ці іншым чынам браў удзел у зверскіх пацыфікацыях мірных дэманстрантаў у першыя паслявыбарчыя дні, усе яны пачулі бацькоўскае слова „дзякуй”. І гэта якраз ніякае не дзіва. А вось факт, што поўны спіс узнагароджаных з’явіўся на дзяржаўным сайце pravo.by, здзіўляе. На такі нечаканы падарунак вокамгненна адрэагавалі інтэрнэт-форумы. Вось, маўляў, стары дыктатар дашчэнту звар’яцеў. Клінічны ідыёт. Падставіў. Тупа зліў сваіх. Дзякуй за гатовыя спісы. Разбяромся.

Шмат памылак нарабіў Лукашэнка апошнім часам, тым не менш падазраваць яго ў вар’яцтве ў гэтым канкрэтным выпадку, я б не стаў.

Памылку першую справакавала — на маю думку — маніякальная прывязка да лічбы восемдзесят. Улічваючы бачны няўзброеным вокам настрой у грамадстве, можна ж было адпусціць Святлане Ціханоўскай галасоў адсоткаў пад трыццаць, сабе намаляваўшы пяцьдзясят з догім хвастом, ды патлумачыўшы ніжэйшы чым звычайна рэйтынг пандэміяй каранавіруса і беспардонным умяшальніцтвам у беларускі выбарчы працэс так з варожага Захаду, як і з братняга Усходу. Ці паверылі б беларусы ў такія лічбы? Наўрад ці, тым не менш хваля пратэстаў пайшла б на колькі паверхаў ніжэй.

Другая памылка — вынік гневу адкінутага альфа-самца. Прагаласавалі „няправільна”, павярнуліся да бацькі спінай, цяпер бацька адпомсціць, а пры нагодзе ў зародку патушыць пажар. Падавіць жорстка, каб ніколі больш такое не паўтарылася. Збіваліся да крыві пенсіянеры і падлеткі, жанчыны і цалкам выпадковыя мінакі. Іроніяй лёсу здарылася патрапіць пад раздачу і тым, хто прагаласаваў „правільна”. Рэпрэсіі, разгорнутыя да нябачных у незалежнай Беларусі маштабаў, не спынілі пратэстаў. Запоўненыя пад завязку турмы і ізалятары, людзі акалечаныя на ўсё жыццё, першыя забітыя далі вынік адваротны да чаканага. Дарэчы, на дадзены момант загінулі — па афіцыйнай інфармацыі — тры чалавекі, але ж дзясяткі сем’яў каторы дзень безвынікова шукаюць сваіх блізкіх. На жаль, знойдуцца не ўсе. Пра іх лёс, мабыць, даведаемся пазней, у лепшы час, калі наважацца сказаць слова супрацоўнікі мінскіх крэматорыяў. Паколькі паспеюць, бо ўсялякія нечаканасці здараюцца з людзьмі, чаго доказам знойдзены ў Нёмане труп маладога чалавека, які, быўшы членам выбарчай камісіі, адмовіўся падпісаць нязгодны з праўдай пратакол.

Трэцяя памылка Лукашэнкі, ці не самая кардынальная, бо з яе і пачаліся ўсе пазнейшыя праблемы — згода на рэгістрацыю Святланы Ціханоўскай кандыдаткай у прэзідэнты. Хваравіта-пагардлівае стаўленне да жанчын у палітыцы, „ім жа катлеты смажыць”, „няшчасныя дзяўчонкі не разумеюць, што чытаюць”, а ў выніку — „давайце зарэгіструем, пасмяемся пасля з хатняй гаспадыні”, усё гэта і прывяло да катастрофы, несасвечнай у самым чорным сне дыктатара.

І гэта было б усё пра памылкі з псіхічнай афарбоўкай у фоне. А цяпер ad rem. Чаму публічна агучаны пералік узнагароджаных карнікаў і пацыфікатараў ні памылка, ні вынік канфлікту дыктатара з уласным розумам. На маю думку ўвесь гэты спіс не больш за безыменныя крышнікі, цынічна закінутыя ў якасці прынады ў мутную ваду лукашэнкаўскай палітыкі. А раптам па той бок барыкады некаму здадуць нервы і на сваю руку пачне ажыццяўляць правасуддзе?

Спісы ўзнагароджаных з’явіліся ў інтэрнэце, а ўжо праз дзень Лукашэнка загаварыў пра пагрозы, што паступаюць на адрас сем’яў вайскоўцаў, міліцыянтаў, спецслужбаў, дзяржаўных службоўцаў. Днём пазней пра такія ж пагрозы ў адрас сваёй сям’і заявіў міністр Макей.

А што, калі б не спраўдзіўся спадзеў на „ворагаў народа”? У крайнім выпадку, цытуючы разважанні Лукашэнкі пра дзевяностыя мінулага стагоддзя, „засталіся пару чалавек, якія з пісталетамі ездзілі па краіне, знішчаючы падонкаў”. Ці маглі б і цяпер прагуляцца ад Віцебска па Берасце, ад Гомеля па Гародню? Канешне маглі б, дзяржаўная прапаганда вынік гэтай паездкі так ці сяк запіша на рахунак тэрарыстаў ад апазіцыі, што ў сваю чаргу абгрунтуе прывядзенне самых жорсткіх інструментаў пацыфікацыі грамадства, не выключаючы надзвычайнага становішча ў краіне. Міністр Макей, відома, можа спаць спакойна, а вось узнагароджанаму „за ўзорнае выкананне службовых абавязкаў” звычайнаму следчаму ці кіроўцы аўтазака ёсць над чым задумацца.

І на канец пра апошнія дзверы, калі падвядуць усе і ўсё. Застаецца ваеннае становішча і брацкая дапамога арміі суседняй краіны. Нездарма ж у сюжэтах дзяржаўных тэлеканалаў, дзесьці побач, ці не на Беласточчыне, бразгаюць гусеніцамі натаўскія танкі, горды „чарнаскурых, жаўтаротых і белабрысых” байцоў перабіраюць ножкамі каб уварвацца ў Сінявокую, а над Гароднян ужо лунаюць польскія сцягі...

Міхал АНДРАСЮК

# Яны асвяцілі нявіннай крывёй гэтае наваколле...

Яшчэ перад тым, як сходзім у лес на месца гібелі вазакоў-пакутнікаў, мы завітаем у вясковую святліцу. Наш прыезд прыкмецілі ўжо ў Пухалах-Старых. Мясцовыя хлопцы знасілі сталы і састаўлялі іх у вялізную падкову, каб прыняць і даць магчымасць адпачыць паломнікам. У гэтай, здавалася б, звычайнай паслузе адчуваўся жэст добрасуседскай адкрытасці. Якраз тут, сярод шляхты, у Пухалах-Старых гэтага моцна не хапала. Калі я раней пабывала ў гэтай мясціне, кожны раз мясцовыя трымалі дыстанцыю. І хаця ніхто нікога не вінавацію у трагедыі, рэзка прамаўляў падзел на «сваіх» і «чужых». Праўда, з дапамогай заўсёды прыходзіў адзін чалавек.

— Dla nas to taka niepotrzebna łatka, — кажа Юзаф Пухальскі. — Jak ich mordowano, to nikt nas o zdanie nie pytał. A potem ludzie ze strachu bali się mówić, co tu się wydarzyło...

Юзаф Пухальскі, мясцовы гаспадар, сам не памятае здарэння ад 31 студзеня 1946 года. У час трагічных падзей яму было ўсяго некалькі месяцаў. Яго бацька, які ў час вайны трапіў у няволю, сам нагледзеўся на бессэнсоўную гібель людзей. У яго хаце ніколі не даравалі таго злачынства ў лесе. Магчыма таму спадар Юзаф заўсёды дапамагаў людзям, што прыязджалі шукаць месца расстрэлу ў лесе. Я сама памятаю, як чвэрць стагоддзя назад Юзаф Пухальскі пайшоў разам з сем'ямі ахвяр у лес, каб паказаць месца гібелі. Не ўсе вазакі былі перапахаваны на могілкі ў Кліхах, частка з іх далей спачывала ў старым лесе.

* * *

Сёння таксама дабіраліся ў лес праз панадворак Юзафа Пухальскага. Пілігрымку ў гэты раз ачоліў Тамаш Суліма, які да таго з мясцовымі хлопцамі састаўляў сталы пад прыём пілігрымаў. Месца гібелі знаходзіцца дзвесце метраў за вёскай, перад лесам трэба перайсці рэчку. Усё тут здавалася нязменным. Праўда, той стары лес, які памятаў адчайныя крыкі людзей і бязлітасныя выстралы, згарэў дваццаць гадоў таму. На месцы вырас новы, аднак і ён паспеў прыпадобніцца да таго, што быў перад ім, строгага, маўклівага і пазначанага лютым злачынствам. Наша пілігрымка спачатку заблудзілася, быццам месца далей ахоўвала нейкая недагаворанасць, тайна...

Чвэрць стагоддзя таму, калі Камітэт сем'яў памардаваных, які ўзначальваў Юзаф Антанюк, намагаўся эксгумаваць астанкі і перавезці іх з Кліх у Бельск-Падляшскі, адчувалася бездапаможнасць. Нават найбольш заангажаваныя члены аб'яднання выступалі ананімна, не хацелі гаварыць у мікрафон, ставаць да здымкаў. Яшчэ ў 1997 годзе немагчыма было скласці поўны спісак забітых. Гэтая праблема адлюстравалася ў ніўскіх публікацыях такім вобразам:

*«Паказваюць мне спісак з подпісамі сем'яў ахвяр. Уражвае гэты акт смеласці. Пераважае там почырк малапісьменных людзей. Сярод заангажаваных членаў камітэта не відаць маладых, адукаваных людзей. — Бывае, што і не верацць нашы ўнукі, калі ім пра гэта расказваеш, — жаліцца адна бабуля. Усё ж такі знаходзяцца адважныя людзі. Як правіла выступаюць яны ў групе. Жыхары Чыжоў — Сцяпан Якімюк, Міхал Тарасюк, Люба Гаўрылюк, Люба Конах выступілі перад камерай тэлебачання. Ад іх журналісты (традыцыйна прысутнічалі толькі беларускія рэдакцыі) даведаліся пра меркаванні наконт маруднай справы эксгумацыі і перапахавання ў Бельск. — Гэта сорам, — наракалі яны, — каб дзяржава нам не дапамагла. Шкада ім грошай збіць скрынку і перавезці косці. — Прадалі б нашы коні, што ад фурманоў пазабіралі. Былі б грошы на перапахаванне. Коні ў палітыку ж не гулялі*.*

Дзень раней у Залешанах быў агучаны поўны спісак новых Падляшскіх святых, разам з тымі ж вазакамі, якіх ужо раней занеслі ў спісак Холмскіх і Падляшскіх святых. І гэтыя, здавалася б, звычайныя прозвішчы прамаўлялі як самы эмацыйны момант урачыстасці. Звычайныя прозвішчы — Максімюк, Якімюк, Бандарук, Кендысь, Хвашчэўскі, Нічыпарук — грымелі як чысты звон, што дабываўся са сцяны добрай памяці.

* * *

Месца смерці кананізаваных вазакоў пазначана мемарыяльным знакам з надпісам:








W TYM MIEJSCU 31/01/1946 r. ZOSTAŁO POMORDOWANYCH 30-tu MIESZKAŃCÓW b/ pow. BIELSK PODL/FURMANÓW PRZEZ ODDZIAŁ ZBROJNEGO PODZIEMIA PAS-NZW kpt. ROMUALDA RAJSA ps. BURY. CZŁONKOWIE RODZIN, 2007

Лясная магіла — сімвал. Целы забітых былі перапахаваны спачатку на могілках у Кліхах, адкуль, дзякуючы стараннням камітэта былі эксгумаваныя і перавезены на вайсковыя могілкі ў Бельск-Падляшскі. Члены камітэта свае намаганні тлумачылі тым, што лягчэй ім будзе дабірацца ў Бельск чым на Браньшчыну. Напаміналі таксама пра свой пажылы ўзрост і безграшоўе, якія абмяжоўваюць доступ да магілы.

Калі ў 1995 годзе я паехала ў Пухалы з сем'ямі памардаваных вазакоў, людзі шукалі яшчэ касцей па лесе. Лік перапахаваных не сыходзіўся з лікам загінулых. Сярод адчайных паломнікаў я прыкмеціла жанчыну, якая адбілася ад групы. Яна пахілілася пад старой сасной з крыжыкам і плакала. А пасля распавяла сваю гісторыю пра загінулага мужа Лукаша Хвашчэўскага з Краснага Сяла.

*— Гэтае месца мне ў сне прыдалося, — сказала між слёз Анастасія Хвашчэўская. — Яшчэ тады як іх забралі. Ой, божачкі! Што я тады меласі! Не ела, не спала, з галавы валасы павылазілі. Як не свая хадзіла, плакала. І тады муж мне прысніўся. Уваходзіць у хату, памаладзелы, як з вянца. Я ад радасці слова не магу прамовіць. А ён замест са мной прывітацца, адразу ідзе да печкі пагрэцца. А пазней кажа мне: не плач, дарагая, я ўжо не пакутую. А ты цяпер глядзі дзяцей...*

У тым жа сне Анастасія Хвашчэўская пачула голас, які гаварыў, што шукаць касцей трэба ў лесе, дзе на дрэве будзе выразаны крыжык.

І зараз, калі я стаяла з паломнікамі над сімвалічнай магілай у пухалаўскім лесе, думала пра тую сасну і каталіцкі крыжык на дрэве. Напэўна выразаў яго нехта з мясцовых, каб пазначыць безыменную магілу. Дзякуючы такім пазнакам былі знойдзены астанкі апошніх вазакоў, якіх перапахавалі разам з іншымі ў Бельск. Магчыма, што парэшткі святых засталіся ў гэтай зямлі.

— Падляшскія святыя важныя не толькі для нас, — гаварыў над магілай бацюшка Марк Якімюк. — Яны важныя для людзей, якія жывуць тут, на гэтай зямлі. Чаму? Бо людзі, якія загінулі ў гэтым лесе, асвяцілі сваёй пакутніцкай крывёй гэтае наваколле.

Іншая рэч, цяжка жыць з недагаворанай праўдай у такім месцы. У Пухалах-Старых не толькі бачылі спалоханых фурманаў, прысуджаных на смерць. Рэха трагедыі ўелася ў памяць, пазначыла пакаленні. Нават у адлеглым на два кіламетры Спешыне чулі, як 31 снежня 1946 года мардавалі фурманаў у пухалаўскім лесе. Адгалоскі злачынства разносіліся жахлівым рэхам па наваколлі. Праўдападобна ашчаджалі патроны. Забівалі ломам у галаву або штыком у жывот. Магілы таксама не выкапалі, мароз тады стаяў люты. Раструшчаныя целы кідалі ў гатовыя ямы з-пад бульбы. Пазней людзі бачылі, як лісы валачылі па лесе чалавечыя чэрапы.

Ды ў словах малітвы «Святыя мучанікі Падляшскія памаліцеся за нас грэшных» ёсць таксама хрысціянскі заклік да пакаяння.

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

# Пятая «Перапяліца» ў Тапарках

Абрадавае мерапрыемства «Перапяліца», якое ў гэтым годзе было арганізаванае ў Тапарках Гуртком вясковых гаспадынь з дапамогай жыхароў вёскі і Гарадскога асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях, адзначыла ўжо пяцігадовы юбілей. Сяляне з дэталямі запрэзентавалі публіцы як зажыналі жыта, як жалі сярпамі і касілі касой. Вяскоўцы паказалі як у мінулым рабілі перавяслы, якімі вязалі збожжа ў снапы, а тыя састаўлялі ў мыдлі. Жыхары Тапаркоў у час жніўнай сустрэчы малацілі жыта цапамі і ачышчалі яго на рэшаце. Галоўнай часткай мерапрыемства, якое адбывалася на ўчастку поля непасрэдна за вёскай, было выконванне з недажатага жыта ўпрыгожанай кветкамі і рабінай перапяліцы. Падчас шэсця на поле і вяртання, самога жніва і прэзентавання перапялічнага абраду ўдзельнікі мерапрыемства спявалі жніўныя і летнія песні. Пазней побач святліцы ўсе госці мерапрыемства, жыхары і выхадцы з Тапаркоў частаваліся стравамі, падрыхтаванымі перш за ўсё мясцовымі гаспадынямі паводле даўніх рэцэптаў. Нашы даўнія песні гучалі таксама ў карагодзе, з якім пасля пачастунку прайшліся па вёсцы члены студзіводскага музычнага калектыву «Жэмэрва» і ахвотныя да спеваў і танцаў удзельнікі фальклорнага мерапрыемства. Удзельнікі карагоду мелі магчымасць павучыцца даўнім танцам, якія зацікавілі жыхароў вёскі.

У цёплую і сонечную нядзелю пасля поўдня перад святліцай у Тапарках сабраліся жыхары вёскі, выхадцы з гэтага сяла, якія зараз жывуць у гарадах, публіка з суседніх сёл і запрошаныя госці. Участак жыта Галіны Руты, на якім мела быць прэзентаванае даўняе жніво і абрад «Перапяліца», знаходзіцца побач вёскі і зручна было дабрацца да яго пяшком. Згодна са склаўшайся ў мінулых гадах традыцыяй удзельнікі фальклорнай сустрэчы перайшлі на поле са спевам жніўных песень. Побач ідучых у шэсці і спяваючых жніўныя песні жыхароў Тапаркоў былі Валянціна Марціновіч з Краснага Сяла ды дзяўчаты і хлопцы са студзіводскага калектыву «Жэмэрва». Жанчыны трымалі ў руках сярпы, а адзін з мужчын нёс касу. На полі за жніўнымі працамі і прэзентаваннем абраду «Перапяліцы» наглядалі солтыс Тапаркоў і заадно старшыня вясковага гуртка гаспадынь Вяслава Бакун, яе муж Мікола, Віталь Соха, уласніца жытнёвага палетка Галіна Рута і Зоя Майстровіч з Рудутаў, ураджэнка Тапаркоў і член тапаркоўскага гуртка гаспадынь. На зажынкі першымі выйшлі жанчыны, якія абжыналі жыта ад вёскі, а калектывы «Жэмэрва» з Музея малой айчыны ў Студзіводах і «Вэрвачкі» з Гміннага асяродка культуры ў Орлі пачалі спяваць даўнія жніўныя і летнія песні. Пазней Мікола Бакун стаў касіць жыта касой, а жанчыны — падбіраць. Паказалі яны як калісьці рабілі перавяслы для вязання збожжа ў снапы. Пазней снапы састаўлялі ў мыдаль — дзевяць снапоў ставілі вертыкальна, якіх прыкрылі трыма снапамі пакладзенымі на іх гарызантальна. Навесам з трох снапоў нашы продкі ахоўвалі дзевяць апошніх снапоў ад дажджу. Галоўнай часткай жніўнага абраду было выконванне перапяліцы. Удзельнікі мерапрыемства разам з музычнымі калектывамі спявалі жніўныя песні, а незжатыя на ўскраіне поля каласы жыта жанчыны з дапамогай дзетак сталі ўпрыгожваць кветкамі і рабінай. Паклалі збоку каменьчыкі, а на іх — абрусак і хлеб. У гэты час бацькі здымалі на мабільнікі сваіх дзетак пры перапяліцы. Па-за прэзентацыяй абраду гуртковасковых гаспадынь наладзіў яшчэ спаборніцтвы для жыхарак Тапаркоў, Сакоў, Залешан і Орлі. Жанчынам трэба было як найхутчэй нажаць збожжа на сноп жыта і звязаць яго зробленым раней перавяслам. Выйграла Галіна Рута з Тапаркоў, якая ўжо ў моладасці здабыла вопыт працаваць з сярпом у руках. Як член гуртка вясковых гаспадынь яна многа працавала таксама пры арганізацыі жніўнага абрадавага мерапрыемства.



Упрыгожванне кветкамі і рабінай перапяліцы



Мікола Бакун паказаў, як касілі касой



Жанчыны і мужчыны з сярпамі зажыналі жыта

— Назва абраду «перапяліца» паходзіць ад птушкі перапёлкі, якая чырыкала ў збожжы ў час жніва. У маёй сям'і ў Тапарках перапяліцу рабілі на недажатым палетку жыта або пшаніцы. Тут каля перапяліцы ляжаць невялічкія каменьчыкі, якія знайшлі дзеткі, а ў мінулым каля прыаздобленага кветкамі збожжа клалі на зямлю таксама адзін большы плоскі камень. Пазней клалі мы на яго абрусак і хлеб, які называлі «хлебам для зайчыка». Мамы хворых дзетак прыходзілі па яго на поле, паколькі былі перакананы, што ў гэтага хлеба моцная лячэбная сіла, якая мела дапамагаць дзеткам. Пазней упрыгожаныя кветкамі і рабінай каласкі збожжа, якія мы звалі перапяліцай, клалі ў новазбудаваную клуню і на іх ускладвалі прывезенае з поля збожжа, — расказала Зоя Майстровіч з Рудутаў.

Жыхары вёскі ўдакладнілі, што ў Тапарках перапяліцу рабілі яшчэ ў пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя, калі збожжа яшчэ касілі касілкамі і малацілі малатарнямі. Абрад знік, калі на поле выйшлі камбайны.

Пасля запрэзентавання цяжкай жніўнай працы мужчыны паказалі, як у прошлым малацілі збожжа цапамі. Гэтая праца была яшчэ цяжэйшай ад работы ў час жніва.

— Каб навучыцца малаціць цэпам, трэба доўга практыкавацца, каб правільна біць кійком ад цэпа па каласках і аддзяляць збожжа ад калосся, — заявіў мужчына старлага ўзросту, які яшчэ працаваў з цэпам у руках.

Зоя Майстровіч і Віталь Соха расчысцілі намалочанае збожжа рэшатам. Сярод сабраных было многа дзетак і моладзі, якія з вялікай зацікаўленасцю глядзелі на прэзентаванае жніво з першай паловы мінулага стагоддзя. Ніхто з прыезджых не адклікнуўся на прапанову тапаркоўскіх мужчын і не паспрабаваў малаціць цэпам, паколькі гэты занятак больш небяспечны, чым касіць касой, што паспрабавалі рабіць асобы з публікі. Удала касілі жыта бургамістр Кляшчэлеўскай гміны Аляксандр Сяліцкі і войт Арлянскай гміны Лявон Паўлючук.

— У Тапарках нашы бацькі жалі збожжа сярпамі. Пазней сяляне пачалі касіць косамі, жанчыны падбіралі збожжа з пакосу, вязалі ў снапы і тады жніво праходзіла ўжо хутчэй. У шасцідзясятых гадах мы пачалі касіць коннымі, а пазней трактарнымі касілкамі. У дзевяностых гадах мы сталі малаціць збожжа камбайнамі, — заявілі мужчыны.

Прэзентацыя жніва і малацьбы збожжа паказала дзеткам і моладзі, як цяжкай у мінулым была праца на гаспадарцы. Хаця ў другой палове мінулага стагоддзя працу моцна аблягчыла тэхніка, якой масава сталі карыстацца жыхары нашых вёсак, аднак іх дзеці сталі масава перавязджаць на пастаяннае жыхарства ў гарады. Так было і ў Тапарках, дзе крыху дамоў ужо пустуе.

Удзельнікі жніўнага абраду са спевам вярнуліся на пляцоўку побач вясковай святліцы. Там солтыс і заадно старшыня гуртка вясковых гаспадынь Вяслава Бакун прывітала сабраных і ўручыла хлябы бургамістру Кляшчэлеўскай гміны Аляксандру Сяліцкаму і войту Арлянскай гміны Лявону Паўлючуку. Тыя падзякавалі жыхарам вёскі за мерапрыемства і прэзентацыю жніўнага абраду, каштоўнага з-за яго адукацыйнага характару для малодшага пакалення. Жніўная сустрэча закончылася каля вясковай святліцы пачастункам для ўсіх удзельнікаў мерапрыемства. Жанчыны з Тапаркоў падрыхтавалі стравы паводле даўніх рэцэптаў. Яны самі спяклі хлеб, пірог, выканалі аладкі, падрыхтавалі мясную кішку, саланіну і вараную капусту з мясам, адкрылі слоікі з мясам, зварылі, а пасля падпяклі бульбу, падрыхтавалі халадзец з агуркоў і цыбулі. Жанчыны пакроілі агуркі і падрыхтавалі памідоры з цыбуляй, кампот і ліманад сваёй вытворчасці. Такія стравы елі ў мінулым жыхары Тапаркоў у час жніва.

Дырэктар Гарадскога асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях Малгажата Клімовіч сказала, што ў гэтым годзе яе ўстанова далучылася да ініцыятывы тапаркоўскіх жанчын. Інструктар асяродка культуры Ягенія Казімірук адзначыла актыўнасць гуртка вясковых гаспадынь і мясцовых мужчын, якія іх падтрымліваюць. За плённую дзейнасць па працягу апошняга года атрымалі яны грашовую ўзнагароду.

— Наш гурток вясковых гаспадынь атрымаў грашовую ўзнагароду за актыўную дзейнасць. Мы рашыліся выкарыстаць гэтыя сродкі з карысцю для ўсіх жыхароў нашага сяла і запрасілі гасцей на наша ўжо пятае абрадавае жніўнае мерапрыемства «Перапяліца», — сказала старшыня гуртка і заадно солтыс Вяслава Бакун.

Жніво азіміны ў мінулым доўжылася ў Тапарках каля двух тыдняў і завяршалася стаўленнем перапяліцы, а яравое збожжа касілі пазней, але сеялі яго менш.

Члены калектыву «Жэмэрва», да якіх даехаў старшыня Музея малой айчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік, спявалі не толькі ў час жніўнай сустрэчы, але яшчэ рашылі павесці карагод па вёсцы. Затрымліваліся ў тых месцах, дзе жыхары Тапаркоў сядзелі на лавачках або адпачывалі на сваіх панадворках і спявалі каля іх даўнія песні пад акампанемент Дарафея Фіёніка на акардэоне, танцавалі і вялі гутарку з вяскоўцамі. Да моладзі далучыліся ўдзельнікі мерапрыемства, у тым ліку турысты з Кракава. Тапаркі — надалей сельскагаспадарчая вёска, у якой не толькі апрацоўваюць палі, але надалей гадуюць малочных кароў. Раніцай і перад вечарам ідуць каровы па асфальтавай вуліцы вёскі ў некалькіх табунах. Якраз «Жэмэрва» закончыла сваё шэсце па вёсцы перад вяртаннем кароў з пашы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

**Гэта была найбуйнейшая акцыя салідарнасці з Беларуссю, якая прайшла пад беларускім генконсульствам у Беластоку. Пад дзве тысячы людзей пайшло вуліцамі горада за аграмадным бел-чырвона-белым сцягам. На Плошчы Касцюшкі сабраліся людзі, якім неабыякавыя сітуацыя ў Беларусі і трагедыя тысяч яе грамадзян. Гістарычны бел-чырвона-белы сцяг стаў нацыянальна-дзяржаўным сімвалам жнівеньскіх пратэстаў, які ізноў аб'яднаў людзей у барацьбе за свабоду і праўду.**

# Аб'яднаныя пад бел-чырвона-белым сцягам — у Беластоку прайшоў Марш салідарнасці з Беларуссю



„Мы, такія як вы — хочам стаць свабоднымі", „Хопіць! Беларусы хочуць зменаў", „АМОН — не твая цацка", „26 гадоў Лукашэнкі хопіць! „— з такімі надпісамі з'явіліся ўдзельнікі маршу 20 жніўня на Плошчы Касцюшкі ў Беластоку. Шмат хто прыйшоў таксама са сцягамі, белымі і чырвонымі шарыкамі і менавіта гэтыя колеры дамінавалі на вопратцы ўдзельнікаў шэсця. Марш салідарнасці быў сарганізаваны па ініцыятыве прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў Беластоку, аднак прыйшлі і жыхары Беластока ды прадстаўнікі беларускай нацыянальнай меншасці, якія шчыльна запоўнілі калоны маршу.

## Лукашэнку не лічыць прэзідэнтам яго ўласны народ

У Маршу салідарнасці прыняў удзел прэзідэнт горада Беластока Тадэвуш Трускаляскі, а таксама яго намеснікі — Рафал Рудніцкі, Пшэмыслаў Тухлінскі і Збігнеў Нікітаровіч ды дэпутат Сейма з Падляшша Роберт Тышкевіч, старшыня Парламенцкай групы па пытаннях Беларусі.

— Мы — суседзі, еўрапейцы, — сказаў на Плошчы Касцюшкі Роберт Тышкевіч. — Беларусы абудзілі не толькі сваю краіну, але Еўрасаюз, які прыпомніў сабе, што Еўропа не канчаецца на Бугу. Мы ўсе ў Еўропе, таму не можам дазваляць на гэта, каб дзесьці побач білі і здзекаваліся над людзьмі, пазбаўлялі іх асноўнага пачуцця годнасці. Ім нават адабралі магчымасць выразіць сваю волю на выбарах.

Тышкевіч папрасіў удзельнікаў маршу далучацца да акцыі збору сродкаў для фонду салідарнасці з беларусамі. Ён таксама звярнуўся да ўрада з просьбай увесці спрошчаныя візавыя працэдуры для грамадзян Беларусі, калі трэба будзе ім знайсці прытулак у Польшчы.

— Ужо час на канкрэтную падтрымку і я ўпэўнены, што беларусы будуць яе вельмі патрабаваць, — падкрэсліў Роберт Тышкевіч. — Адначасова я ўпэўнены, што Лукашэнка сапраўдным прэзідэнтам Беларусі ўжо ніколі не будзе не толькі таму, што яго прэзідэнтуру не прызналі заходнія краіны, але перш за ўсё таму, што не лічыць яго прэзідэнтам уласны народ. Пытанне як доўга ён будзе сыходзіць. Спадзяюся, што адбудзецца гэта хутка шляхам паўтарэння выбараў. Гэта шанц, каб Беларусь сапраўды стала часткай вялікай еўрапейскай сям'і.

## Абакрадзены з голасу

Падчас Маршу салідарнасці прэзідэнт горада Беластока таксама падтрымаў беларусаў у барацьбе за дэмакратычныя змены. Раней удзельнічаў ён у адной з акцый, якія праходзяць з 9 жніўня пад Генеральным консульствам Рэспублікі Беларусь у Беластоку. У знак салідарнасці з Беларуссю Тадэвуш Трускаляскі асабіста вывесіў беларускі бел-чырвона-белы сцяг на гарадскіх установах.

— Я падазраю, што буду неўязным у Беларусь, але адначасова спадзяюся, што ненадоўга, — сказаў перад Маршам салідарнасці Тадэвуш Трускаляскі. — Усё-такі нават калі мне прыйшлося б чакаць даўжэй, бо ўлада ў Беларусі і так калісьці памяняецца, я не памяняў бы свайго становішча, бо гэта натуральна, каб быць з людзьмі, народам, каб стаяць на баку праўды.

Прэзідэнт Трускаляскі падкрэсліваў, што Беласток салідарны з беларускім народам і выказаў сваё перакананне, што беларусам удасца адстаяць свае правы.

— Кожная дыктатура рана ці позна памрэ, таму што кожная дыктатура парушае законы, нават тыя, якія сама сабе ўстанавіла, — сказаў у звароце да ўдзельнікаў маршу Тадэвуш Трускаляскі.— Сёння вы, беларусы, пакажаце Польшчы, Еўропе і ўсяму свету, што вы — нацыя, што хочаце выбраць прэзідэнта, які будзе вас прадстаўляць. Вас абакралі з галасоў і зараз, пасля дваццаці шасці гадоў, вы сказалі: даволі! Хай той марш запішацца ў нашых сэрцах аж да перамогі. Жыве Беларусь!






## Акцыі, якія падбадзёрваюць беларусаў

Удзельнікі Маршу салідарнасці з Плошчы Касцюшкі перайшлі галоўнымі вуліцамі горада ў бок Генеральнага консульства Беларусі па вул. Электрычнай. Арганізатары мерапрыемства накіравалі адкрыты ліст генеральнаму консулу Беларусі ў Беластоку Але Фёдаравай, каб далучылася да акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі выбараў і выказалася наконт збівання мірных дэманстрантаў на вуліцах беларускіх гарадоў.

— Я сам, як зараз гавораць, са свабоднага горада Гродна, — сказаў адзін з арганізатараў Маршу салідарнасці Дзіма Казак, які зачытаў зварот да генеральнага консула. — У мяне шмат блізкіх, родныя там жывуць. Гэта вельмі важнае, каб паказаць сваю падтрымку. Я не магу ўжо маўчаць, ведаючы, што некаторыя з іх пацярпелі ад снарадаў, некаторыя папалі ў турму. Нам ужо не трэба баяцца, нам трэба адстойваць за сваю свабоду.

Таму вуліцы Беластока гучалі ад воклічаў: „Верым, можам, пераможам!", „Жыве Беларусь!", „Зменаў!", „Свабоды!", „Мы не забудзем, не даруем!", а таксама „Ухадзі" ў бок Аляксандра Лукашэнкі.

— Я прымаў удзел у стольких прайграных рэвалюцыях, але і зараз вельмі хвалююся за Беларусь,— адзначыў у час маршу прафесар Алег Латышонак. — Гэта для мяне адкрыццё, што ў Беластоку ёсць беларуская дыяспара. Былі мы, падляшскія беларусы, але гэтыя, якія прыехалі тут за працай, раней не кідаліся ў вочы. Зараз аказалася, што яны вельмі хвалююцца за Беларусь і вераць, што Беларусь памяняецца і гэта нас, падляшскіх беларусаў, таксама падбадзёрвае.

Марш салідарнасці завяршыўся беларускім варыянтам песні „Муры", якая стала ўжо гімнам беларускіх змагароў. Беларусы Падляшша пад будынкам генконсульства ў Беластоку праспявалі рэлігійны гімн Беларусі „Магутны Божа".

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Беларусь — мая любоў і натхненне!

У Беластоку кожны дзень адбываюцца пратэсты перад консульствам Рэспублікі Беларусь. Таксама 20 жніўня г.г. вуліцамі горада прайшоў магутны марш з бел-чырвона-белымі сцягамі ў падтрымку Беларусі. Здаецца, падобнай колькасці сцягоў наш горад яшчэ не бачыў! Пра тое, што пратэст мае выключна мірны характар, сведчыць вялікая колькасць дзяцей. Некаторыя з іх яшчэ ў калясках, або на руках бацькоў. Усе хочуць дапамагчы суродзічам за мяжой, якія вырашаюць важныя справы.

Сярод сабраных мы сустракаем навучэнцаў беларускай мовы Кандрата і Міхаліну Косціных. З верасня Кандрат пойдзе ў II Агульнаадукацыйны ліцэй. Там жа збіраецца і Юля Гжэсь з Залук, якую таксама спатыкаем на адным пратэсце.

— Я хачу вывучаць беларускую мову, — заяўляе Юля, — гэта мая любоў і натхненне.

Тыя, што хадзілі на ўрокі беларускай мовы, разумеюць, што ў Беларусі адбываецца гістарычны момант. Яны хочуць падтрымаць мірнае змаганне за змены на лепшае жыццё.

А як паказаць сваю салідарнасць, калі не прыгожай песняй?

Вось наша моладзь і дзеці, якія ўдзельнічалі ў маршы салідарнасці 20 жніўня, прыгожа прадставілі беларускую меншасць Падляшша. Дзяўчаты неслі вялікі бел-чырвона-белы сцяг, а пасля, ужо пры будынку консульства, разам з бацькамі і іншымі ўдзельнікамі спявалі «Магутны Божа», «Купалінку» і «Тры чарапахі». Іх аднагодкі з Беларусі, якія карысталіся адно рускай мовай, глядзелі на гэта з захапленнем і падключаліся да песень.

Жыве Беларусь!

Фота Ганны Кандрацюк





*Міра ЛУКША*

## Родныя колеры

Сярод рамонкаў белых
чырвоны мачок.
Чырвоны колер спелы —
у жоўтым жыце сцяжок.
Над збожжам свежы блакіт
і залацень.
Вочы прамылі дажджы
на светлы дзень.
Бярозка пахуча пляце
сваё завіткі.
Ружова бульба цвіце,
у разорах снітка.
А васількоў табуны
гоніць вятрыска,
у жыце, у травах яны
гараць сінім пырскам.
А залатая свяча
з жоўтай дзіваннай
нясуць на сваіх плячах
гудзенне духмянае.
Па цёплай сцежцы нясе
босая ножка.
У бок радзімы вядзе
з красак дарожка.

**УВАГА КОНКУРС! № 35-20**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 6 верасня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Загадкі з роднай хаткі**

З-пад мохавай сховы
Павысоўвалі хлопцы галовы.
Хто ні ідзе — іх вітае,
З сабой забірае.
Г....
(Уладзімір Карызна)

Адказ на загадку № 31: авечка. Узнагароду, каляровыя алоўкі, выйграла Алўка Гапанюк. Віншуем!


Фота ГК

# Міфы старажытных беларусаў

**ЖОРАЎ** — для старажытных беларусаў жораў быў падобны на бусла, таму яго часта ставілі ў калядных абрадах і славілі на роўні з буслам. У Асіповіцкім раёне да чалавека пераапранутага ў жорава, звярталіся:

Жораў, жораў!
Пакажы свой нораў.
Сцягні блін,
Вылеці ў комін.

Карацей кажучы, гэты вокліч меў паспрыяць дабрабыту. Менавіта гэтая прыгожая птушка лічылася носьбітам дабрабыту і здароўя, часта палёт жураvoў віталі воклічам: А каб ты быў здаровы!

Жорава таксама лічылі пасрэднікам паміж светам жывых і памерлых. Людзі верылі, што ў іх свяшчэнныя веды, што яны здольныя зладзіць камунікацыю з памерлымі продкамі.

Вобраз жорава звязаны з мужчынскім пачаткам, яго вобраз прыпісвалі стройнаму маладзёну, які разбівае ўсякую абыякавасць з боку жаночага полу ды наклікае іх прыхільнасць. Ды дзякуючы ім чалавечы род мае ахвоту прадаўжаць сваё існаванне. Апошняя думка спарадзіла шмат мастацкіх карцін і песень, дзе жораў напамінае нам пра прыгожыя хвіліны жыцця. Хопіць прыгадаць жураўліны танец, які сам па сабе натхняе да кахання і дабрыні.

На Падляшшы ведаюць песню пра жураўліка, які пад аховай белых птушак выбраўся з выраю, каб павесяліць родную старонку. З яго прылётам насыцяцца вадой і расквітнеюць лугі і дабрабыт у людзей. З прылётам жураўлёў звязаная пажадальная варажба. Калі першы раз на небе пабачыш жураўліны ключ, трэба абярнуцца вакол сваёй восі і ў думках выказаць сваё жаданне. Тады, верылі нашы продкі, усё пойдзе па нашай думцы, здзейсняцца мары і планы. А восенню, калі птушкі адлятаюць у вырай, нашы продкі прасілі іх у думках, каб яны забралі з сабой увесь смутак, немачы і бяду.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**

# Журавінавы жур —
## мегавітамін з прысмакам лета!

Зараз набліжаецца сезон на журавіны, якія ў цэлым свеце лічаць мегавітамінам і смакавым рарытэтам. Паколькі ў нас можна набыць яшчэ журавіны з дзікіх балот, смак прапанаванай стравы прамовіць як рай для смакавых рэцэптараў. Жур можна спажываць як асобную страву, можна таксама спалучаць з мясам, сырам, садавінай. Прапанаваны рэцэпт мы знайшлі ў «Беларускай кухні» Юры Качука.

**Складнікі для журу:**
3/4 літра цэду
1/4 літра вады,
100 грам цукру,
40 грам журавін,
2 сталовыя лыжкі цукровай пудры.

**Складнікі для цэду**
Цэд — рошчына, якую выраблярем з аўсянай або жытняй мукі ў прапорцыях 5 літраў вады на 1 кілаграм мукі. Муку распусціць вадой, перамяшаць і паставіць у цяпле на 24-36 гадзін, калі вадкасць набудзе прыемны пах і кіславаты смак. Рошчыну старанна працадзіць праз сіта і перахоўваць у бутэльках або глінянай пасудзіне.

Журавінавы жур гатуем у такі спосаб: закіпяціце ваду і дадайце расцёртыя з цукрам журавіны і цэд. Варыць усё да загусцення, аж страва пачне напамінаць кісель. Затым астудзіць і пасыпаць цукровай пудрай.

Смачна есці!

**(гак)**



## Польска-беларуская крыжаванка № 35-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 31-20:**

Жарабя, пакора, агарод, рот, калыска, рысунак, ара, гарант, ар, Алька, ах, ружа, скарб. Торт, тыраж, сала, акунь, ганак, палата, шарык, кос, так, лодка, ара, дар, араб.

Узнагароду, беларускія літаркі на камп’ютарную клавіятуру, выйграла **Мілена Федарук.** Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Gust | | | | | Marzenie / Posada | | | | |
| | Jak | Wiersz | | Sfera / Czas | | | | Uczta / Jarzębina | |
| | Wieczór | | | | | | Ar / Łapa | | |
| Wrzos / Oda | | | | | | Siłacz / Czoło | | | |
| | Rasa | | | | | Ali | | | |
| | | | | | | Pan | | | |
| | Prysznic | Oświata | | | | | | | |

# Каля Рудні, каля броду...

У пятніцу 7 жніўня раніцай на прыстані на пляжы ў Рудні адбылася цырымонія адкрыцця раней абвешчанай выставы пад назвай «Затопленыя вёскі», якая праводзілася ў рамках праекта «РУДНЯ ПРАЕКТ — Спадчына затопленых вёсак». Галоўным арганізатарам і стваральнікам мерапрыемства быў Гурток вясковых гаспадынь і гаспадароў салэцтва Бандары, а гміны Міхалова і Нараўка ды іх гмінныя культурныя цэнтры сталі партнёрамі праекта і фінансава падтрымалі яго рэалізацыю. Найбольш падмацаваў арганізацыю Нацыянальны цэнтр культуры Польшчы. Дзякуючы гэтаму, у прыватнасці, атрымалася выканаць карты, паказваючыя мясцовасці, якія зніклі дзясяткі гадоў таму пад паверхняй вадасховішча Семяноўка... Над вадасховішчам стартаваў фестываль „Рудня праект", на якім цягам двух дзён можна было прыняць удзел у майстар-класах, гульнях ды канцэртах. У рамках праекта адкрылася выстава табліц-картаў «Затопленыя вёскі», створаных на аснове архіўных дакументаў і размоў з жыхарамі паселішчаў.

Карты паказваюць размяшчэнне дамоў і іншых аб'ектаў, характэрных для паасобных вёсак, затопленых у выніку пабудовы штучнага вадасховішча Семяноўка.

— Праект паказвае гісторыю гэтай тэрыторыі, але таксама набліжае да канкрэтных людзей, — сказала старшыня гуртка і солтыска Яўгенія Бура: — Я спатыкалася з маімі суседкамі, якія паходзяць з выселеных вёсак — Лукі, Болтрыкаў, Рудні, Бахуроў, Гарбароў, Буд. Гэта перш за ўсё для іх мы хацелі зрабіць, каб яны ўспомнілі, не забыліся. Сюды прыязджаюць іх дзеці, унукі, праўнукі. Няхай і яны помняць назвы колішніх вёсак. Яны захаваліся на экспанаваных табліцах, на якіх можна пабачыць як распаложаны былі паасобныя хаты, школы. Каб гэта хоць такім чынам не знікла. Уклалі мы ў аднаўленне памяці шмат сілы і часу, а найбольш хіба Аляксандр.

Аляксандр Кардаш:

— Дзякуючы выстаўцы спадчыннікі і наведвальнікі даведаюцца, дзе затопленыя вёскі стаялі, колькі ў кожнай вёсцы было хат, хто дзе жыў. Дзе жыў каваль, дзе стаяла кузня, вятрак. Тут яшчэ апісана кароткая гісторыя зніклых вёсак і гісторыя вадасховішча, да ўзнікнення якога і я прыкладаў сваю руку, працаваў пры яго пабудове і дзейнасці. Хоць такім чынам вярну памяць гэтым месцам і людзям.

Намеснік маршалка Падляшскага ваяводства Станіслаў Дзэрэгайла:

— Гэтая цікавая і вартая ўвагі падзея сабрала, як бачым, шмат людзей. Цяпер турысты зойдуць на памост над пляжам у Рудні, пабачаць, пачытаюць, даведаюцца пра былое. Як Свіцязь мае сваю „Свіцязянку", то можа калісьці з'явіцца прыгожая паэма пра Семяноўку.

Выставу адкрыла беластачанка, доктар Марыля Тваroўская — таксама жыхарка «аседля Бандары», каардынатарка згаданага праекта. Сярод гасцей, якія прыйшлі на гэтую ўнікальную і ў той жа час надзвычай кранальную падзею — асабліва для перамешчаных жыхароў і іх нашчадкаў — сярод іншых былі згаданы намеснік маршалка Падляшскага ваяводства Станіслаў Дзэрэгайла, староста Беластоцкагва павета Раман Чэпэ, староста Гайнаўскага павета Андрэй Скепка, радны Беластоцкага павета Генрык Сухоцкі, бургамістр Міхалова Марк Назарка, войт Нараўчанскай гміны Яраслаў Галубоўскі, новы дырэктар ГЦК у Нараўцы Марк Сякерка, а таксама Лукаш Бірыцкі, які сабраў неабходныя матэрыялы і падрыхтаваў узніклыя карты. На жаль, не паявіліся там абяцаныя табліцы з вершамі народных паэтаў пра роднае наваколле пабеларуску і ў перакладзе на польскую мову — незабыўнага Фёдара Хлябіча і Марыі Хлябіч. Усе ўдзельнікі моцна падкрэслілі сутнасць памінання такім сімвалічным і адначасова канкрэтным чынам падзей з мінулага, якія ўвайшлі ў гісторыю нашага рэгіёна і краіны.











— Я пасяліўся тут, купіў хатку ў Цісоўцы, — прызнаецца на пляжы адзін з наведвальнікаў выставы і цэлага фэсту Генрык Сянкевіч родам з Тыкоціна. Ён набыў і пастычныя кніжкі Міры Лукшы пра тутэйшыя мясцовасці і людзей, а таксама новы нумар «Нівы». — Я калісь сюды прыязджаў палявацць. Цяпер «палюю» іначай. Захапіўся я людзьмі, краявідам, мовай. Калі яшчэ нядаўна не разумеў, калі са мною гаварылі па-свойму, і людзі стараліся са мною «польшчыць», дык я прасіў, каб гаварылі да мяне па-беларуску, і цяпер няма ў мяне праблем са зразуменнем, а нават сам прабую што-небудзь сказаць па-беларуску.

— Мы гулялі ў вельмі цікавы праект на пляжы, — кажа Оля Карпюк з Капітаншчыны, якая прыехала ў госці да сваякоў на аседле Бандары. — Будавалі мы з пяску карту вёсак, якія заліло возера. Карысталіся мы каменьчыкамі, галінкамі, дошчачкамі, пяском, а рэчку Нарву зрабілі так: выкапалі раўчук, нанасілі туды вядром вады з возера. Мелі мы раней нарысаваныя карты на паперы — дзе стаяла чыя хата, як прабягала дарога. Прыгадвалі мы таксама імёны гаспадароў, будуючы іх уяўныя дамы. А пад вечар у пятніцу пабеглі мы ў «падходы» — у гульню «ад вёскі да вёскі». Тут наўкола ўжо лес парос, нядаўна ад крыжапомніка вёскі ў Рудні было відаць пляж, як кажуць людзі. Я не памятаю, бо была яшчэ малая. Лес хутка расце.

Дарота Сульжык з Гарадка:

— Сёння я праводзіла майстар-класы па валянні (традыцыйныя кветкі на сцёблах) у Бандарах у рамках мерапрыемства «Рудня праект». Паказваю арыгінальныя чорныя валёнкі, якія прынёс дзядзька Аляксандр, жыхар Бандароў. Магчыма, іх зрабіў майстар з адной з патанулых вёсак некалькі дзясяткаў гадоў таму. Гэтыя, шэрыя валёначкі, выйшлі з маіх рук. Вялікі дзякуй арганізатарам з гуртка за запрашэнне мяне да ўдзелу ў гэтым вельмі каштоўным праекце.

Каля пажарнага дэпо (каля Рыбакоў) вяліся яшчэ кулінарныя майстар-класы (рэй вялі тут солтыска Геня Бура і Эва Казарэз-Ліпінская). Кожны мог падацца на імпрэзы згодна са сваімі зацікаўленнямі. У Юшкавым Грудзе адбыўся канцэрт рэлігійных песень, з карагодам і з абрадам пад назвай „Куст" пайшлі па беразе возера, аж да вёскі Семяноўкі. А ўвечары ў суботу ў 18 гадзіну на пляцы пад заездам «Карына» пачаўся канцэрт народных песень і забава. Якраз туды і дабраліся бабулькі, выселеныя з затопленых вёсак і хутароў, якім не хапала родных спеваў. Яны маглі іх на фэсце «Бандароўская гасцёўня» слухаць проста з акон сваіх «блёкаў». А тут раптам дзве тутэйшыя імпрэзы («Рудня» і «Гасцёўня») сышліся амаль у адзін дзень, з-за пандэміі. Памятаем і гуляем, на пагібель заразе!

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Гады арлянскага росквіту (3)

Так аб пабудове школы ў 2001 годзе для перадвыбарчага дадатку „Наша Вуорля”, выдадзенага штомесячнікам „Przegląd Prawosławny”, расказваў Анатоль Мартыновіч, пенсіянер, былы дырэктар пачатковай школы ў Орлі ды шматгадовы старшыня Грамадскага камітэта будовы школы:



■ Пачатак будовы новай школы ў Орлі, каля 1988 года. Справа — яшчэ не знесены будынак старой „малой” школы

(...) Бацькі школьнікаў і настаўнікі імкнуліся да пабудовы новай школы. Амаль у кожнай вёсцы ўзніклі грамадскія камітэты будовы школы. Збіралі мы грашовыя складчыны, ладзілі розныя імпрэзы, на якіх выпрацоўвалі невялікія грошы. Усё гэта збіралі на будову. Дзякуючы намаганням ваяводскай раднай, настаўніцы Таісы Кацэйка і прыхільнасці Уладзіміра Каладзеюка (швагра суразмоўцы), тадышняга першага сакратара Ваяводскага камітэта ПАРП, удалося нашу будову ўнесці ў ваяводскі план. У 1985 годзе распачата ўзводжанне новага будынка побач старой („вялікай”) школы (будынак „меншай” і іншыя былі знесены). Былі грамадскія пачыны людзей з Орлі і навакольных вёсак. Многа сэрца ўклаў у пабудову пакойны Мікалай Зіневіч, тадышні начальнік гміны. (...) Да 1989 года будынак быў гатовы, але не хапіла грошай на пракладку паркету. А пасля грамадскіх перамен салідарніцкія ўлады ў Беластоку вельмі неахвотна глядзелі на нас. (...)

* * *

Успамінае Юзаф Бжана, 1947 года нараджэння, лекар ветэрынары, тадышні старшыня арлянскага ПРОН:

У той час былі два камітэты: Грамадскі камітэт будовы школы і Нацыянальны чын дапамогі школе, які ўзнік пры ПРОН. І рушыў па вёсках збор грошай на пабудову школы, якую ўзводзілі ў 1984-1992 гадах. Былі г.зв. цаглінкі па 100, 200, 500 і 1000 злотаў. Я з жонкай купілі дзве па 500 злотаў. І будова арлянскай школы была ўведзена ў ваяводскі бюджэт. У пачатках будовы мы таксама працавалі грамадскім чынам; адноўчы было нас дзесяць асоб. Калі залілі фундаменты, то вырылі тую яму. Прывязуць некалькі „Камазаў” жвіру і мы лапатамі сыпалі на тачкі цэлы дзень. Памятаю, што быў і начальнік гміны Мікалай Зіневіч; прыйшоў і кажа: „І я з вамі папрацую”, і пачаў кідаць. Калі будова спынялася, былі мы з Таісай Кацэйкавай, настаўніцай, у Варшаве і атрымалі 300 тысяч злотаў на абліцоўку.

У 1991 годзе ў гміне быў выбраны войт; раней быў начальнік. Войт Міхал Іванчук быў, з аднаго боку вельмі хітры, думаў правільна — бо калі будова школы была дзяржаўнай інвестыцыяй замацаванай у ваяводы, то і яны павінны яе закончыць. І ў 1991 годзе войт грошай не даў, і тыя не далі. Будова школы і жылога блока спынілася. Але ў 1992 годзе войт пабачыў, што трэба штось думаць і пачаў купляць паркет, шукаць дзе таней. І 28 красавіка 1992 года склікаў нас — камітэты пабудовы. Сакратаром Грамадскага камітэта будовы школы была загадчыца Кааператыўнага банка ў Орлі Людміла Ярымовіч. Паводле пратакола адбылося тады супольнае пасяджэнне гміннага праўлення і грамадскага камітэта, прысвечанае абмеркаванню спраў звязаных з завяршэннем будовы школы.

І мне даручылі ехаць 10 мая ў вёску Крывую збіраць па хатах складчыны. Я хадзіў разам з настаўніцай Валянцінай Хіліманюк, а солтыс Андраюк хадзіў са Стрэльчуком. І я ў Крывой назбіраў тады шмат грошай, хаця Крывая неахвотна ставілася да будовы школы ў Орлі, бо ў іх была свая школа. Але пакольі мяне зналі, то саромеліся адмаўляць і давалі. Быў у мяне спісак і я запісваў расходы.

У той час набліжаліся выбары і пра ўсё рашаў ПРОН. І гмінны сакратар партыі Ян Кубаеўскі звярнуўся да мяне, каб я балаціраваўся з першага месца. Гэта несправядліва ў адносінах да далейшых кандыдатаў і я зусім адмовіўся ад выбараў. А балаціраваўся толькі ў першых дэмакратычных, калі былі ўжо скрэсленні, 1988-1992 гг., і выйграў, але пад канец 1990 года тая рада была распушчана.

* * *

15 лістапада 2011 года спадар Юзаф Бжана звярнуўся ў адрас дырэкцыі арлянскай школы: „У 2012 годзе мінае роўна дваццаць гадоў ад здачы ў карыстанне школы ў Орлі. Гэтай падзеі папярэднічала некалькігадовая будова. Выдача пасведчанняў за 1991/1992 навучальны год адбылася ўжо ў новай школе, аднак урачыстае адкрыццё дыдактычнай часткі новай школы адбылося 17 снежня 1992 года. (...) Як тадышні жыхар Орлі, заангажаваны ў пабудову новай школы, дазволю сабе запрапанаваць, каб у 2012 годзе зладзіць урачыстае адзначэнне той важнай падзеі. Варта тут адзначыць, што ў васьмідзясятых гадах дзейнічалі ў Орлі Гмінны грамадскі камітэт нацыянальнага чыну дапамогі школе і Грамадскі камітэт будовы школы ў Орлі. Святкаванне дваццацігоддзя школы можна было б спалучыць з арганізацыяй з’езду яе выпускнікоў. Кожная традыцыя мае свой пачатак. Сёння праўдападобна ніхто не помніць, што першае табло для вучняў было выканана ў 1999 годзе і патрабавала ад мяне шмат высілку, аднак стала пачаткам пэўнай школьнай традыцыі. Мяркую, што мая прапанова абгрунтаваная, годная роздуму і магла б быць здзейснена”.

* * *

У 2011 годзе некаторыя былыя члены Грамадскага камітэта будовы школы запрапанавалі дырэкцыі школы адзначыць дваццацігоддзе здачы для навучання новага будынка — каб маладыя даведаліся, у тым ліку і настаўнікі, аб укладзе працы ў яе пабудову, аднак гэта асталося без водгаласу.

Памятаю, што некаторыя члены Грамадскага камітэта будовы школы пыталі мяне, ці маю я аўтарскія здымкі ходу пабудовы. Вядома, здымкаў у мяне нямала. Хацелі яны, каб на той жа сустрэчы прадставіў я такую выстаўку з этапаў пабудовы; і так мела быць. Гэта не просьба, але наша супольная справа, а нават абавязак, прыстойнасць аказаць удзячнасць асабліва гэтым людзям.

Я, як радны, на сесіі Гміннай рады таксама заяўляў гэтую справу, сказаў нават, што ў выніку сённяшняга настаўнікі з-па-за Орлі маюць дзе працаваць — „цёплыя пасадкі”... Тады на сесіі прысутнічала дырэктар школы і войт. Аднак прапанова засталася без водгаласу; папросту яны не захацелі, хаця ў вочы не прызналіся. Як кажуць у народзе — ісці па найменшай лініі супрацўлення. Навошта нейкая арганізацыя і новая традыцыя для падкрэслівання чыіхсь заслуг. Я добра аб тым перакануўся, бо быў тады доўгі час радным.

Без адказу асталося і маё запытанне ад імя некаторых бацькоў, чаму на школьным будынку ў Орлі ёсць шыльда толькі на польскай мове, а побач няма беларускай; у бельскай школе ёсць і па-беларуску. Паставіў я гэтае пытанне на сесіі, на якой прысутнічала дырэктар школы, быў таксама тадышні войт. Гмінныя радныя 12 лютага 2009 года прынялі пастанову пра ўвядзенне дапаможнай беларускай мовы. На тэрыторыі Арлянскай гміны маем усталяваныя дадатковыя назвы на мове беларускай нацыянальнай меншасці. Чаму ж няма таксама беларускай шыльды на школьным будынку? Ці забаронена, каб такая была? Можа нечага апасаемся? Адказам на пытанне была цішыня. Але і цішыня як жа ж красамоўная. Я заявіў, што калі няма вуснага адказу, то не чакаю і пісьмовага. Школа, магчыма, баіцца такой шыльды, апасаючыся, што некаторыя бацькі не пашлюць сваіх дзяцей у такую школу. Лік вучняў паменшаў бы, а настаўнікі патрабуюць працы. А ў Бельску-Падляшскім? Там ёсць такая шыльда і бацькі пасылаюць сваіх дзяцей. Чаму? Бо менавіта ў той школе высокі ўзровень навучання. З чаго ж у Орлі неахвота да двухмоўнай шыльды?

## Першы арлянскі „хмарачос”

На тадышнім школьным пляцы, паралельна са школай, побач кацельні, будаваўся з 1988 года жылы трохпавярховы блок для настаўнікаў — як тады планавалася; пабудова завяршылася пасля адзінаццаці гадоў.

Настаўнікі цікавіліся будучымі кватэрамі, наведвалі будаўнічую пляцоўку, цешыліся першымі сценамі, а некаторыя ўжо нават прымяркоўвалі сабе кватэры. Аднак неўзабаве надзея на хуткае наваселле прапала.

У кастрычніку 1990 года інвестар — Прадпрыемства абслугі інвестыцый — быў прымушаны спыніць будову. Будоўля была закончана звонку — з вонкавай сталяркай і руберойдавым дахам. Пяць месяцаў пазней дах загарэўся. Дзеці падпалілі дахавую масціку, на якую быў пакладзены руберойд. Згарэла 10 квадратных метраў даху. Рамонт пачаўся два гады пазней — у лістападзе 1992 года. Аднак будынак, якога ніхто не пільнаваў, на працягу наступных гадоў знішчаўся. Зладзеі пакралі вокны і дзверы. Гэта ўзбударажыла жыхароў. Толькі ў 1997 годзе войт вырашыў замураваць пазбаўленыя сталяркі праёмы. На завяршэнне будоўлі гміна са свайго бюджэту прызначыла мільярд старых злотаў, за якія адзін рабочы ўвесь год корпаўся на будаўнічай пляцоўцы. За гэты час паставіў ён перагародкі і паклаў тынкі. У наступным, 1998 годзе, на аддзелачныя работы ў блоку і перабудову школьнай кацельні (абагграванне блока са школы) было адведзена з бюджэту 217 618 злотаў, але выкарыстана толькі 57 538 злотаў. Гміна папросту не забяспечыла выканання аддзелачных работ, пракладкі санітарнай сеткі і не аб’явіла таргоў на перабудову кацельні.

Надзея на завяршэнне работ з’явілася ў 1999 годзе. Рашэннем Гміннай рады ад 30 сакавіка на будову жылога блока прызначана было 300 тысяч злотаў. Таргі на завяршэнне будовы выйграла Будаўнічае прадпрыемства з Бельска-Падляшскага, якое запрапанавала найменшы кошт — 362 537 зл. 14 чэрвеня бельскія будаўнікі (10 рабочых і кіраўнік) увайшлі на пляцоўку. Неўзабаве аказалася, што прадпрыемства патрабуе больш грошай. Будаўнічы інспектар з Беластока паказаў, што каштарыс не прадбачваў істотных спраў, без выканання якіх ніхто не прыняў бы будынка ў карыстанне — праекціроўшчыкі забылі пра балюстрады, ізаляцыю падвалаў ці бляшаныя аддзелачныя работы. Бельскія будаўнікі справіліся з работамі датэрмінова і 7 снежня гмінная камісія прыняла будынак. Трэба было заплаціць прадпрыемству 435 тысяч злотаў.

Спачатку чэргаў да новых кватэр не было. Цана — 750 зл. за квадратны метр — высокая і таму прапанавалася продаж у растэрміноўку, з выкарыстаннем высокапрацэнтнага крэдыту. Праз нейкі час усе кватэры былі выкуплены. Цана, у параўнанні з гарадамі, была прывабнай. Найбольш кватарантаў склалі людзі звонку Орлі — маладыя сем’і з дзяцьмі, пенсіянеры з гарадоў і вёсак; мясцовых было найменш. Зараз пражываюць там розныя па нацыянальнасці і веравызнанні людзі.

*Апрацаваў, запісаў і сфатаграфаваў*
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Сакі — другая Грабарка

У гэтым годзе на Спаса як заўсёды мы паехалі ў Сакі. Там мы ездзім з 1990-х гадоў, калі яшчэ там не было праваслаўнага манастыра. У гэтым годзе як заўжды было мноства народу. Сярод іх было многа маіх сяброў з часоў студэнцкага праваслаўнага брацтва ў Беластоку. Па левай старане царквы стаяла даўжэзная чарга вернікаў да споведзі. Спавядалі пяць бацюшкаў, сярод якіх былі мае сябры — айцец Павел Кучынскі і айцец Лукаш Барташук, вікарый Пакроўскай царквы ў Вульцы-Выганоўскай. Дарэчы, мы з айцом Лукашом маем супольнае хобі — запісваем размовы са старэйшымі людзьмі. Мне ў гэтым хобі не раўняцца з айцом Лукашом таму, што ён запісаў размовы з большасцю жыхароў нашых падляшскіх вёсак. Хаця ад самой раніцы надвор'е было пахмурнае, то калі ў царкве спявалі „Верую" ды „Ойча наш" з'явілася сонейка. Да Святой Прычасці прыступіла цэлая царква народу. Прычашчалі на дзве чашы. Па левым баку былі дарослыя, а па правым — дзеці. Пасля ўсе адной чаргою ішлі да вялікай пасуды з просвірамі. Стоячы ў натоўпе вернікаў, я ўспомніў, што ў 1994 годзе ішло праз Маліннікі дзве тысячы паломнікаў з Беластока на Гару Грабарку. Тады ў нас у стадоле начавала сорак маладых паломнікаў. Сястра маёй жонкі Ева ішла на Грабарку ўжо шаснаццаты раз. Першы раз пайшла яна ў паломніцтва ў 1998 годзе. А ў гэтым годзе з-за каранавіруса з Беластока выйшла толькі 150 чалавек.



Пасля службы традыцыйна бацюшкі і вернікі абышлі хрэсным ходам царкву св. Дзмітрыя ў Саках. Хор праспяваў „Многая лета". Дэкан Кляшчэлеўскага благачыння айцец Мікола Келбашэўскі пачаў сваю шчырую, кранаючую струны сэрца пропаведзь: «Жывем у цяжкіх часах каранавіруса, але гэта пачатак таго, што нас чакае. Калі ў часы Другой сусветнай вайны родныя матулі з Падляшша, Беларусі, Расіі і Украіны адпраўлялі сваіх сыноў на вайну дык вешалі ім крыжык на шыю, за іх маліліся і менавіта іх малітва зберагла салдат ад смерці. Нават вядомы савецкі маршал Ракасоўскі, які ішоў з Беларусі праз Польшчу, маліўся за тое, каб Чырвоная Армія перамагла фашыстаў. На прыкладзе Залешан (суседняй вёскі ад Сакоў) мы ведаем, што Бог заўсёды прабачае, чалавек часам прабачае, а гісторыя ніколі не прабачае. Залешаны і наша Падляшская зямля арошана крывёй нявінных мучанікаў, простых вясковых людзей, якія прынялі нявінную смерць за праваслаўную веру. Я таксама заклікаю вас, каб вы маліліся проста, шчыра ад цэлага свайго сэрца так, як нас вучыў Ісус Хрыстос: „Ойча наш..."». І ў гэты момант вялізны натоўп людзей паўтараў малітву за айцом Келбашэўскім. Пацалаваўшы крыж і выходзячы дамоў, я сустрэў айца Яна Яканюка, бацюшку родам з Грабаўца. Зараз ён з'яўляецца настаяцелем прыхода ў Пётркаве-Трыбунальскім Лодзінскай епархіі. «Слава Богу, не наракаю, — кажа мне айцец Ян Яканюк. — Першапачаткова было мала людзей, а зараз большасць маіх вернікаў складаюць грамадзяне Украіны, якія кожную нядзелю і свята шматлюдна наведваюць нашу царкву ў Пётркаве. Украінцы вельмі веруючыя людзі. Сёння я прыехаў на радзіму таму, што ў Грабаўцы жыве мая сям'я». Пасля я сустрэў майго вельмі добрага сябра па працы Мацька, які ўсім, хто быў на багаслужбе, раздаваў булачкі і кампот. Манахі заявілі, што ўжо на свята Дзмітрыя будзе гатовая аўтастаянка. Дарэчы, у гэтым годзе было вельмі многа жыхароў Гайнаўшчыны, Бельшчыны і Сямятыцкага павета. Былі таксама жыхары Беластока і Варшавы. Нездарма ў народзе кажуць, што Сакі гэта другая Грабарка. Нават царква св. Дзмітрыя знаходзіцца на горцы, якая напамінае Грабарку. Тут бліжэй да неба, бліжэй да Бога, бліжэй да малітвы. Тут яднаюцца чалавечыя душы і сэрцы з Богам. Дай Божа, каб усе, хто быў у гэтым годзе ў Саках на Спаса, за год дачакалі.

Юрка БУЙНЮК




# http://knihi.by

Нават нягледзячы на тое, што лукашэнкаўская ўлада ў Беларусі зрабіла з беларускай мовай, звёўшы яе на перыферыю грамадскіх зносін і паставіўшы на край вымірання, знаходзяцца людзі, якія лічаць для сябе патрэбным несці роднае слова ў масы. У гэтым сучасныя кнігадрукары і распаўсюднікі кніг на беларускай мове падобныя на нашага першадрукара Францыска Скарыну. Таму варта завочна пазнаёміцца з адным з такіх распаўсюднікаў — Алесем Яўдахай і яго інтэрнэт-крамай **https://knihi.by**.

Уласна сайт выглядае даволі просценька. Звычайная інтэрнэт-пляцоўка з прапановамі тавараў і кароткім расповедам аб кожным з іх, зразумела, з пазначэннем цаны. „Knihi.by — інтэрнэт-крама беларускай кнігі. Дасылаем поштаю па краіне і ўсім свеце", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта, дзе таксама месціцца заклік „выберы падарунак сабе і сябрам".

Па шчырасці кажучы, выбраць падарунак на сайце ёсць з чаго. З левага боку цэлага выяўлення пад загалоўкам „Беларускія кнігі і музыка" знаходзяцца выйсці на рубрыкі сайта, якія падзелены паводле віду тавару, узроставых катэгорый, аўтараў, выдавецтваў і іншых крытэрыяў. На некаторыя з рубрык можна выйсці праз прадубляваныя пазначэнні ўверсе выяўлення.

Калі нехта з бацькоў захоча нешта набыць на сайце для свайго дзіцяці, то ён можа выбраць альбо аўдыёкнігу, альбо дзіцячы часопіс, альбо дзіцячую кнігу ці размалёўку. Для сябе дарослыя могуць набыць мастацкую літаратуру, слоўнікі, фотаальбомы, розныя часопісы, а таксама пераклады на беларускую мову іншамоўных твораў і кнігі, надрукаваныя беларускай лацінкай.

Што ж вядома пра прадпрымальніка Алеся Яўдаху, які займаецца кніжным бізнесам, і яго дзейнасць на абшарах беларускага інтэрнэту? Паводле газеты „Новы час", інтэрнэт-крама Knihi.by — найстарэйшы сайт, які займаецца гандлем выключна беларускай літаратурай, у тым ліку выданнямі, якія не даходзяць або забаронены для продажу ў афіцыйных гандлёвых сетках краіны.

„Ад пачатку 2000-х гадоў Яўдаха дасылае беларускія кнігі па ўсім свеце: у тым ліку замоўцам у ЗША, Аўстралію, Канаду і г.д. Не абыходзілася і без эксцэсаў, напрыклад, у 2013 г. ён быў аштрафаваны на велізарную па тых часах суму за распаўсюд кніг „Маладафронтаўцы", — гаворыцца ў нумары „Новага часу" за май 2017 года. Менавіта ў той год, калі Беларусь ускалыхнулі так званыя недармаедскія пратэсты, яго імя набыло крыху іншае гучанне, чым дагэтуль. Алесь Яўдаха быў арыштаваны і правёў каля ста сутак за кратамі па сфальшаванай „справе патрыётаў" ці, як яе яшчэ называлі — „Белага легіёна". Праз паўгода яна была спынена, бо цалкам развалілася, але лукашэнкаўскія памагатыя паспелі папіць крыві ў сумленных людзей.

Зразумела, што цягам пэўнага часу, а менавіта каля года, інтэрнэт-крама Knihi.by не магла працаваць. Толькі ў чэрвені 2018 года Яўдаха атрымаў пасведчанне кнігараспаўсюдніка.

„Ягоная справа вельмі важная для Беларусі, бо займацца беларускай кнігай для грошай — гэта ўтопія. Сёння, як і пяць, і дзесяць год таму, — гэта не справа, на якой можна зарабіць мільёны", — кажа пра Яўдаху яго сябар, паэт, шоўмен і тэлевядучы Усевалад Сцебурака.

Аляксандр ЯКІМЮК

## Дата з календара



## 50 гадоў з дня нараджэння

# Эдуарда МАЗЬКО

Беларускі паэт, гісторык, педагог Эдуард Мазько (многія ведалі яго найперш як літаратара Едрусі Мазько) нарадзіўся 29 жніўня 1970 года ў вёсцы Махро Іванаўскага раёна. Дзяцінства прайшло ў краі маляўнічым і амаль казачным — на Палессі. Але асноўная частка яго жыцця звязаная з Гроднам. Пасля школы ён паступіў вучыцца ў Гродна на гісторыка, жыў у студэнцкім інтэрнаце па вуліцы Даватара. У 1992 годзе Эдуард Мазько скончыў гістарычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Нейкі час працаваў у музеі Максіма Багдановіча, якім творча кіравала паэтка Данута Бічэль-Загнетава. У 1990-я гады актыўна пісаў і друкаваў вершы. Уваходзіў у верш-гурт „Дыяген" — суполку гродзенскіх паэтаў, іншыя нефармальныя моладзевыя згуртаванні. Вучыўся ў аспірантуры ўніверсітэта, пазней выкладаў у Гродзенскім універсітэце сацыялогію культуры і культуралогію.

У 2003 годзе Эдуард Мазько абараніў кандыдацкую дысертацыю пра Беларускую хрысціянскую дэмакратыю ў міжваенны час, працаваў у архівах, пісаў доктарскую дысертацыю, прысвечаную беларускай народнай культуры. Яго, як даследчыка Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, ведалі не толькі ў Беларусі, але і ў акадэмічных асяродках Польшчы, Літвы, Расіі, Украіны.

20 чэрвеня 2011 года Мазько на сорак першым годзе жыцця заўчасна і раптоўна памёр у Гродне. І хоць ён меў хранічныя хваробы, смерць была дастаткова загадкавай і незразумелай. Адпяванне прайшло ў гродзенскай праваслаўнай царкве Усіх Святых. Пахавалі Эдуарда Мазько на могілках у горадзе Масты на радзіме жонкі Галіны.

Едрусь Мазько быў вядомы гарадзенцам хіба больш як паэт, чым як навуковец. У розны час ён падпісваў свае творы па-рознаму: Едрусь Мазько, Эдзік Мазько, Эдуард Мазько. Ягоныя радкі „насыплю ў імбрычак самоту тваіх вачэй, будзем піць з табою гарбату адзіноты" былі культавымі сярод гарадзенскай адраджэнскай моладзі канца васьмідзясятых гадоў. Ягоная паэзія вартая не аднаго літаратурнага альманаха і ўвагі літаратурных крытыкаў. Яна ўвабрала ў сябе ўсе колеры гістарычнай Гародні, усе мелодыі сучаснага Гродна. Лабірынты начных вулак, анёлы „са шпілю пекнай фары", святло неонавых рэклам — усё гэта свет Эдзіка Мазько. Ягоныя вершы поўняцца жыццём, але ў той самы час цэнь трагічнасці вострым лязом кладзецца на кожны радок, кожны гук.

Вось як пра Едруся Мазько сказаў ягоны сябра, таксама літаратар, Юрась Пацюпа: „Вершы былі нестандартныя, нялёгкія да запамінання. Ён пачынаў з верлібраў. Між іншым, вялікі ўплыў на яго зрабіла беластоцкая паэзія і асабліва Надзея Артымовіч. Яны сябравалі. Менавіта пад яе ўплывам ён і стаў так пісаць, як пісаў. Ён заўжды лічыў яе сваёй настаўніцай. У яго ёсць вершы прысвечаныя Беласточчыне, Бельску-Падляскаму. Цікава, што ён сам родам з Кобрыншчыны, мясцовасці, дзе мова беларуская адрозніваецца ад літаратурнай мовы, таксама як і многія беластоцкія гаворкі. У 1980-я гады ў яго быў нават шэраг вершаў напісаных на палескім дыялекце, менавіта на мясцовым кобрынскім дыялекце. Быў захоплены творчасцю Надзеі Артымовіч, якраз яе творчасць натхняла яго і была ўзорам".

У 2012 годзе ў Варшаве выйшла пасмяротная кніга паэзіі Эдуарда Мазько пад назвай „Займеннікі". У Гродне апошнія гады праходзіла некалькі вечарын памяці паэта і навукоўца.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Равы непакошаны стаяць

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета прыпыніла дзейнасць Водная суполка „Лазовае”. Першапачаткова існавала яна многа гадоў пад кіраўніцтвам Яна Драўноўскага з Міклашэва, пазней — Станіслава Садоўскага з Тарнопаля. Апошні з іх многа што зрабіў на равах, карчаваў ды паглыбляў там, дзе яны былі замулены ды зараслі, найбольш у наваколлі Тарнопаля і Лазовага. Прайшлі справаздачныя сходы (С. Садоўскі не хацеў далей быць старшынёй суполкі) і на яго месца старшынёй выбралі Пятра Стоцкага з Новага Ляўкова. Спадар Стоцкі сёлета ў пачатку года падаў у адстаўку. Праўленне Воднай суполкі „Лазовае” (яно зараз не мае свайго памяшкання) пакуль што не сабралася і не абрала новага старшыні.

Зараз равы, якія ўпадаюць у рачулку Баброўка (правабярэжны прыток Нараўкі), стаяць непакошаны. Калі я быў солтысам, мы са спадаром Садоўскім прывялі ў парадак, між іншым, два равы ў Новым Ляўкове. Не паглыбілі і не ачысцілі ад мулу ў тых месцах, дзе сяляне баяліся, што панізіцца ўзровень вады ў іх сажалках або яны высахнуць.

З таго часу на шматлікіх равах нанава выраслі меншыя і большыя кусты алешыны, ракіты і вербалозу ды вырасла буйная трава і высокае пустазелле. У густых і купчастых кустах малыя шэранькія птушкі звілі многа прыхаваных невялікіх гнёздаў. Кожнаму сваё. Ім такія месцы далей ад людскога вока патрэбны. Тут далей і ад вясковых катоў. **(яц)**

## У нас найбольш дошак аб’яў

Дошкі аб’яў патрэбныя ў гарадах і сёлах. У вёсках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета пра іх паклапаціліся солтысы і радныя. Між іншым дзякуючы ім паступае інфармацыя з розных дзяржаўных устаноў, дамоў культуры і грамадскіх арганізацый ды ад войтаў і солтысаў да жыхароў вёсак.

У вёсках Нараўчанскай гміны ёсць па адной, дзве або тры дошкі аб’яў. Тры дошкі стаяць, між іншым, у Плянце, па дзве ў Старым Ляўкове і Міклашэве, па адной у Лешуках, Міхнаўцы, Новінах, Заблотчыне, Мінкоўцы, Сушчым Барку, Падляўкове, Ахрымах і Бярнацкім Мосце.

Найбольш дошак аб’яў сустрэнем у вёсцы Новае Ляўкова і на яе калёніях — шэсць. Адна з іх на калёніі пад самым лесам Плянта пры вузкай дарозе побач трох хат Скепкаў, так мовіць, прыватная. І так бывае. Яна розніцца ад іншых — малая і без дашка. Так дзве тамашнія жыхаркі пастанавілі і зрабілі па-свойму. Солтыс яе абмінае. **(яц)**




## Новая пляцоўка

У Нараўцы Гайнаўскага павета здалі ў карыстанне добра абсталяваную новую пляцоўку для дзіцячых гульняў. Знаходзіцца яна ў засені дрэў ды на прыгожым пляжы са свежа навезеным пяском на правым беразе ціхаплыннай ракі Нараўка, пры пункце пракату байдарак ды каля моста і малой плаціны. Тут побач і амфітэатр з даволі вялікай сцэнай, лавачкі для гледачоў.

**Тэкст і фота**
**Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



# 30.08 — 05.09

**(22.03. — 20.04.)** 30-31.08. не дай сябе намовіць на рызыкоўную інвестыцыю Будзеш спакайнейшы, гарманічны з атачэннем, схільны да кампрамісу і згоды. Калі чагосьці баішся, гавары аб гэтым адкрыта. З 5.09. непатрэбная рызыка і захапленне рэчамі нявартымі ўвагі. Маючы завялікія патрабаванні да іншых, можаш прапусціць доўгачаканы шанц.

**(21.04. — 21.05.)** 30-31.08. праверыш сябе ў нялёгкай сітуацыі, пераможаш свае боязі і абмежаванні. Прэч з нудою ў спальні! Трымай вочы шырока адкрытымі, а прыкмеціш штосьці, што ў будучыні вельмі табе прыдасца. Час багаты ў вопыт і прыгоды. Дома справы круцяцца вакол грошай.

**(22.05. — 22.06.)** 29-31.08 не стань ахвярай уласных уяў. Пабуджэнне, энергія, адвага і рашучасць. Рамантыка! У сардэчных справах дай панесціся жарсцям! На працы крыху перабояў, але не трапляй у паніку. Чакае цябе мілы фінансавы сюрпрыз.

**(23.06. — 23.07.)** 28-30.08. прынясе табе новыя шанцы. Можа быць нагода выезду, абучэння. Але ідэальны час на прапушчаны водпуск. Падарожжа прыемнае, мілая кампанія, але пільнуй бяспекі сваёй і іншых. Добры час і на парадкі ў паперах. Не раздзірай старых ран. З аптымізмам прымай усё, што дзеецца навокал. Калі праз фірму перакоціцца бура, абміне цябе.

**(24.07. — 23.08.)** Не стой бяздзейна, каб не абмінулі цябе поспехі і ўзнагарода. Ад 2.09. (аж да 09.09.) адкрыюцца перад табой новыя магчымасці, прыносячы нагоды добрага заробку. Дынамічна, працавіта і зацята — удасца дайсці свайго! (Пільнуй здабыткаў, каб праз тыдзень-два твая праца не пайшла дарам!). Стаў на простую, хатнюю ежу.

**(24.08. — 23.09.)** 29-30.08. шанцы на павышэнне, лепшы занятак. 29-31.08. вельмі пільнуйся, каб чагосьці на рашыць кепска — бо пасля будзеш шкадаваць. Энтузіязм, энергія. Тое, што маеш зрабіць заўтра, зрабі сёння. Пагадзі розум з пачуццямі, каб не страціць над усім кантролю. Магчымыя ўдачы ў фінансах. Пані-Дзевы: не дапускайце ніякіх занядбанняў! Знакамітая форма. Але каб не было грашкоў у дыеце — бо пасля будзеш наракаць.

**(24.09. — 23.10.)** 29-31.08. можа падвесці цябе перакананне аб уласнай беспамылковасці. Могуць прыйсці добры весткі пра дадатак, узнагароду, вяртанне даўгу. У пачуццях пастаў на шчырасць і спантаннасць. З вырашэннямі ў прафесійных справах пачакай да канца месяца. Увесь месяц ты ў фантастычнай форме. Цудоўна з сямейнікамі і сябрамі. Не купляй нічога неабдумана. Будзь асцярожны ў дарозе.

**(24.10. — 22.11.)** Нішто табе не павінна перашкодзіць у рэалізацыі тваіх задум, якія заляцяць табе ў галаву. Паглядзі на сваё пачуццёвае жыццё халодным вокам — тады больш яго зразумееш. Твае фінансавыя рашэнні хай будуць адважныя, ды глядзі на рукі супольніку. Закрунешся пры новых кантактах і новых крыніцах даходу Шмат змен, з якіх не заўжды будзеш задаволены. Не думай аб паразах, а трымайся таго, у чым ты добры. Гвалтоўныя пачуцці — і пры захапленнях, і расстаннях.

**(23.11. — 22.12.)** 29-31.08. магчымы замяшанне і хаос, над якімі будзе цяжка запанаваць. 29-30.08. варта зайграць за тое, што табе належыцца, старацца за крэдыт, датацыю. З 5.09 (да 09.09) дзе дзейнічай усляпую, дакладна трымайся правіл. Недахоп асцярожнасці, наіўнасць і вера ў тое, што справы аформяцца самі — могуць увесці цябе ў клопаты. Спалучэнне сяброўства з сексам можа цяпер не апраўдацца!

**(23.12. — 20.01.)** 29-30.08. Зоркі памогуць табе рэалізаваць прафесійныя планы, асабліва звязаныя з выездамі. Калі дома чакае цябе партнёр, будзь асцярожны 29-31.08., бо хтось неапазнаны можа табе моцна закруціць у галаве! З 05.09. (да 09.09.) захочацца табе ўзяцца за праекты, якіх час яшчэ не прыйшоў. У прафесіі заўважыш новыя магчымасці. У працы меціш высока, неўзабаве дасягнеш таго, чаго чакаеш.

**(21.01. — 19.02.)** Не раскідвайся грашыма! Можаш выкарыстаць прапанову выезду, але добра забяспечся, за мяжу. Самотныя Вадалеі пазмагаюцца з поспехам за сваё шчасце. Можа адкрыцца ў табе аздараўляльная моц! Цікавыя фінансавыя перспектывы падкажа табе Венера. Не забывай аб прафілактыцы ў здароўі.

**(20.02. — 21.03.)** 29-31.08. будзеш схільны да заканчэння кантактаў з некаторымі асобамі, ахвотна разарвеш ніць знаёмства з тымі, хто цябе заўсёды выкарыстоўваў. 29-31.08. пільнуйся — новапазнаная асоба можа на цябе аказаць дрэнны ўплыў! На працы горача, але абмінуць цябе праблемы, калі сыдзеш з першай лініі фронту. Зразумееш цяпер, што ў тваёй пары для цябе найважнейшае. Не кажы, што ў тваім узросце ўжо запозна на змены! Плануючы (так працаўнік, як і шэф) усё палічы, каб не страціць ні залатоўкі!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. паразітуе на дрэвах, з белымі ягадамі (*Viscum*) = 4 _ 5 _ 6 _ 30 _ 17 _;
2. агародная расліна сямейства бабовых = 9 _ 31 _ 26 _;
3. некалькі звязаных разам прадметаў = 29 _ 22 _ 2 _ 28 _ 24 _ 25 _;
4. найменшы палец на руцэ = 3 _ 10 _ 11 _ 23 _ 1 _ 27 _ 33 _;
5. дыны ў асілка = 32 _ 34 _ 20 _ 21 _;
6. нагляд, сачэнне = 14 _ 13 _ 18 _ 12 _ 19 _;
7. перад Бялградам уліваецца злева ў Дунай = 15 _ 16 _ 7 _ 8 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | 9 | 10 | 11 | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 |

**Адказ на адгаданку з 31 нумара**

Ака, Еўка, ёрш, ліга, моц, паша, пена, Уса, цаля, церніца, эпіка.

Рашэнне: **Калі эканоміка папраўляецца, усё іншае пагаршаецца**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 693 70 00 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# На мазавецка-падляшскай мяжы

**XIX стагоддзе было названа векам пары, XX — векам электрычнасці, а цяперашняе, бадай — векам інфармацыі. Сапраўды, абвальваецца на ўсялякі народ патоп усялякіх вестак, а цікавасць цягне ў той інфармацыйны вір як камень у ваду.**

Для прыкладу — картаграфічныя карты. Яшчэ ж не так даўно, прынамсі ў нас, былі яны надта агульныя, пазначаны на іх былі большыя мясцовасці ды дарожныя шляхі паміж імі. Пра большыя гарады можна было даведацца, у якім дыяпазоне лік іхняга насельніцтва; іншых цікавінак трэба было шукаць у адмысловых кнігах.

А цяпер? Традыцыйны атлас становіцца нявыгадным перажыткам. Бо ж хопіць выклікаць з камп'ютара картаграфічную карту, і там паявіцца, напрыклад, традыцыйны картаграфічны чарцёж, або нават від тэрыторыі з адвольнай вышыні, нават з космасу. Мала таго, пазначаны там аб'екты, якія патэнцыйна могуць задаволіць любую цікавасць. З сучаснай электроннай карты можна даведацца пра зусім нечаканыя аб'екты; кожны чытач сучасных электронных дакументаў можа пачуцца Калумбам, Магеланам ці Гагарыным.

Вось падаўся я ў такое віртуальнае падарожжа па слядах нядаўняга рэальнага — значыць з Варшавы ў бок Сямятыч. Узяў я на блізкі прыцэл Венграў. Калісь, каля сарака гадоў таму, здаралася мне пару разоў пракалясіць цераз гэты горад; і толькі. А зараз заглянуў я звысоку на гэты павятовага рангу горад. Цікавілі мяне аб'екты з сівой даўніны, а такімі ў прынцыпе з'яўляюцца храмы...

Венграў у час найбуйнейшага тэрытарыяльнага разгону Вялікага Княства Літоўскага апынуўся ў яго межах. А можа нават і не апынуўся, толькі ў той час узнік, нарадзіўся. А побач Венграва была іншая мясцовасць, якая, здаецца, вырасла на свет крыху раней — Ліў. Можа я пра той Ліў зусім не цяміў бы, калі б не кароткае знаёмства з яго ўраджэнцам і вялікім патрыётам і знаўцам той ліўскай малой айчыны. Праўда, не ўсё мне запамяталася, адно толькі тое, што Ліў гэта мясцовасць незвычайная.

І сапраўды, на схіле Сярэдневякоўя, калі фармаваліся ў нашай частцы свету дзяржаўна-адміністрацыйныя суб'екты, Ліў стаў тэрытарыяльным цэнтрам адной з зямель суседняй з Падляшшам Мазовіі — Ліўскай зямлі. Зыгмунт Глогер так пісаў: „Ліўская зямля, уся на левым беразе ракі Лівец, якая адмяжоўвала яе з усходу ад Драгічынскай зямлі, значыць ад Падляшскага ваяводства, не была падзелена на паветы. Горад Ліў, на рацэ Лівец, сталічны гэтай зямлі, са старажытным мураваным замкам мазавецкіх князёў, паселішча вельмі даўняе, пра што сведчыць мноства знаходжаных там стараРымскіх манет. (...) Да важнейшых замкаў у Мазовіі Ян Длугаш пад 1355 годам залічвае Плоцк, Чэрск, Раву, Ліў і Гастынін...". Пра Варшаву тады яшчэ Длугаш не згадваў...

Перад захаванай вежай ад згаданага замка інфармацыйныя стэнды. „Ліўская зямля выдзелілася з чэрскай княжацкай вотчыны; упершыню ліўская кашталянія згадваецца ў крыніцах у 1304 годзе. Характэрнай рысай гэтых зямель, будучых пад пастаянным пагрозай з боку яцвягаў і Літвы, было рыцарскае засяленне. Задачай селеных князямі рыцараў была ахова граніцы Мазовіі з Літвой на рацэ Лівец. Асобны землёй сталі лічыць ліўскую кашталянію з 1471 года. Ліўская зямля, як апошняя частка незалежнага Мазавецкага княства, была далучана да Кароны Польскай у 1537 годзе".

Будова ліўскага замка была распачата каля 1420 года, а калі завершана, складана сказаць, бо ўвесь час нешта дабудоўвалася. У 1547-1556 гадах замкам уладала каралева Бона, якая таксама ўнесла свой уклад у яго ўзбуйненне. Стагоддзем пазней шведскае войска паднішчыла замак, а ў 1703 годзе амаль дашчэнту яго зруйнавала. Асталася толькі замкавая вежа, таксама паднішчаная. У гады Другой сусветнай вайны гітлераўцы задумалі разабраць вежу, а атрыманую цэглу прызначыць для будовы неадлеглага лагера смерці ў Трэблінцы. Аднак адзін мясцовы жыхар, Атон Верпахоўскі, прыкідваючыся немцам, паддаў гітлераўцам вестку, быццам ліўскі замак пабудавалі крыжаносцы і немцы ліўскай вежы не раскідалі, толькі сталі яе адбудоўваць; працы спынілі толькі з надыходам фронту ў 1944 годзе. Сам Верпахоўскі служыў пазней у II арміі Войска Польскага і быў забіты 6 лютага 1945 года п'яным савецкім афіцэрам. Вежа была адбудавана ў 1961 годзе, зараз там музей...

У пачатках XVI стагоддзя Ліў быў байкаватым горадам. У Старым горадзе працаваў 171 рамеснік, у тым ліку 60 піваварaў, 14 гарэлачнікаў, 27 шаўцоў, адзін залатнік, два мечнікі, 24 пекары, два іголачнікі, сем мяснікоў; у Новым горадзе 102 рамеснікі, у тым ліку 44 піваварy... Ліў стаў траціць значэнне ў палове наступнага стагоддзя не толькі ў выніку шведскага „патопу", але і ў выніку буйнення суседняга Венграва. У Венграве сяліліся прывілеяваныя чужаземцы. Да ўсяго таго і пажары нішчылі гістарычны цэнтр Ліўскай зямлі. Стэнд у цэнтры Ліва: „У гэтым месцы звыш чатырохсот гадоў стаялі чарговыя парафіяльныя храмы Ліва, якім заступнічаў св. Іаан Хрысціцель. Тут таксама, на галоўных могілках горада складвалі цягам вякоў тленныя астанкі памерлых жыхароў. Апошняя ліўская фара пры Рынку Старога горада згарэла 1 сакавіка 1700 года". Цяперашні ліўскі касцёл пабудаваны ў 1905-1909 гадах.

Пра паступовае „паглынанне" Ліва Венгравам можа сведчыць і тое, што зараз Ліў з'яўляецца намінальным цэнтрам Ліўскай гміны, але гмінная ўправа знаходзіцца ў Венграве побач даўняга парафіяльнага комплексу ксяндзоў-камуністаў...

Кім жа былі тыя камуністы? З'явіліся яны ў Еўропе намнога раней Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса. Энцыклапедыя Вялікага Княства Літоўскага: „Камуністы, ксяндзы агульнага жыцця, супольнасць свецкіх ксяндзоў (Інстытут свецкіх ксяндзоў у агульным жыхарстве, лац. Institutum Sacerdotum Saecularium in Comuni Viventium). Заснаваў у 1640 годзе нямецкі ксёндз Барталамей Гольцгаўзэр. Статут камуністаў зацверджаны папам Інакенціем XI у 1684 годзе. Жылі невялікімі абшчынамі (лац. vita communis — агульнае жыццё, адсюль і назва) з агульнай маёмасцю, без жаночай прыслугі. Давалі зарок на пажыццёвае знаходжанне ў суполцы, паслушэнства свайму старшаму, але не былі манахамі. Мэтай руху камуністаў абвяшчалася годнае жыццё і душпастырская дзейнасць, а шляхам яе рэалізацыі — утрыманне дыяцэзіяльных і ўласных духоўных семінарый. Адчынялі таксама пачатковыя і сярэднія школы, дамы ксяндзоў-пустэльнікаў (тых, хто прымаў манаскія зарокі). Падлягалі ўладзе мясцовых біскупаў. У Польшчы камуністы з'явіліся ў 1683 годзе. З 1684 года кіравалі семінарыяй у Янаве на Падляшшы. У 1695 годзе ім перададзены касцёл св. Карла Барамея ў Караліне каля Пінска, дзе адчынілі ўласную семінарыю. У 1704 годзе луцка-берасцейскі біскуп А. Выгоўскі перадаў камуністам калегіум вікарыяў пры кафедральным касцёле ў Луцку і калегіум у Алыцы, а ў 1711 годзе — прэпазітуру (кіраўніцтва парафіяй — А. В.) у Венграве. У 1726 годзе камуністы адчынілі ўласную семінарыю ў Берасці (паводле некаторых даных, пачала дзейнічаць пасля новай фундацыі мясцовым пробашчам Пятром Шпаненбергам і яе зацвярджэння біскупам Ф. П. Турскім у 1773 годзе). У 1736, 1739-1765 гадах працавалі ў Віленскай духоўнай семінарыі. Месцамі душпастырскай дзейнасці камуністаў сталі прэпазітуры ў Камянцы (1717), Беластоку (1746), Шкудах у Жамойці, Бераставіцы, шпітальная прэпазітура св. Роха ў Вільні. У канцы XVIII ст. камуністы працавалі ў шматлікіх парафіях у Віленскім і Луцка-Берасцейскім біскупствах (на мяжы XVIII-XIX ст. у Берасцейскім біскупстве — у 23 парафіях). У Рэчы Паспалітай камуністы мелі свайго старшыню, якога выбіралі на генеральным капітуле на 8 гадоў". І крышку з Вікіпедыі: „Мясцовыя грамады ўзначальваліся праведырамі. З ІІ паловы XVII ст. таварыства пашырылася на іншыя краіны Еўропы. У Рэчы Паспалітай аб'яднанне з'явілася ў 1683 годзе з ініцыятывы каралевы Марысенькі. Першы манаскі дом «бартошкаў» (такую мянушку яны атрымалі ў РП) паўстаў у Гуры-Кальварыі, другі — у Беражанах. Афіцыйная дзейнасць у Польшчы завяршылася ў 1850 годзе".

Пра Ліў і пра камуністаў пры нагодзе. А так у сапраўднасці пацягнула мяне ў Венграў інфармацыя з электроннай карты, што ў тамашнім кляштарным комплексе зладжана выстава пра шматвяковую шматкультурнасць памежнага з Мазовіяй падляшскага Венграва. Але пра гэта ў наступным матэрыяле.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**


Замкавая вежа ў Ліве


Фрагмент венграўскай прэпазітуры


Колішняя арыянская друкарня ў Венграве

ISSN 0546-1960 35